www.nv-online.info

№ 25 (4174)

28 сакавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:
## «Без свабодных выбараў эскалацыя сітуацыі ў краіне будзе толькі павялічвацца»

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі лічыць, што галоўным патрабаваннем правацэнтрысцкай кааліцыі, у якую ўваходзяць АГП, рух "За Свабоду" і аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя", з'яўляецца правядзенне свабодных і справядлівых выбараў у краіне. *«Гэтае патрабаванне можа стаць пунктам, які аб'яднае і апазіцыю, і простых прыхільнікаў пераmен. Без свабодных выбараў эскалацыя сітуацыі ў краіне будзе толькі павялічвацца»*, – сказаў ён.

**БЛІЦ**

Пра тое, што адбылося ў суботу ў Мінску, цяпер ведаюць ва ўсім свеце. За лічаныя гадзіны ў пастарунках апынуліся сотні чалавек. Некаторых збілі і нават пакалечылі.

Да таго ж напярэдадні мелі месца прэвентыўныя затрыманні з жорсткім абыходжаннем. У актывіста руху "За Свабоду" Алеся Лагвінца страсенне мазгоў, закрытая чэрапна-мазгавая траўма.

Хто вінаваты – сталічныя ўлады, якія, парушаючы закон, да апошняга не адказвалі на просьбу арганізатараў акцыі дазволіць правесці яе ад Акадэміі навук да Кастрычніцкай плошчы, ці актывісты апазіцыі, якія не сталі нават разглядаць магчымасць адзначыць 25 сакавіка на пляцоўцы побач з плошчай Бангалор, зняўшы з сябе ўсялякую адказнасць?

А якую ролю ў спектаклі пад назвай "Хапун!" сыгралі міліцыя і спецслужбы?

Вядома ж, узнікае пытанне і да непасрэдных удзельнікаў акцыі, да тых, хто не пайшоў мітынгаваць у парк Дружбы народаў, на што ў апошні момант быў дадзены дазвол, а вырашыў выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю ў сувязі з 99-й гадавінай абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, шпацыруючы па праспекце Незалежнасці ў бок плошчы Якуба Коласа.

"Народная Воля" вырашыла апытаць не толькі чыноўнікаў Мінгарвыканкама і тых, хто падаваў заяўку на правядзенне акцыі, але і адказных асоб праваахоўных органаў, а таксама тых, каго напаткаў лёс апынуцца ў пастарунку. Мы папрасілі выказаць сваё меркаванне і некаторых вядомых асоб краіны.

# Чаму святкаванне 99-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі для многіх адбылося ў аўтазаках і пастарунках?

**Аляксандр РАКОЎШЧЫК, галоўны дарадца старшыні Мінгарвыканкама:**

– Я да гэтага дачынення не маю. І наогул, пры чым Мінгарвыканкам да затрыманняў? Мы – гарадская гаспадарка, глядзім за тым, каб было цёпла, светла і чыста. Так што дакладна не да мяне пытанне...

*(Да каго-небудзь з непасрэднага кіраўніцтва Мінгарвыканкама датэлефанавацца не ўдалося, учора ніхто не выходзіў на адкрытую сувязь з грамадствам. А таму атрымаць адказ на пытанне, чаму гарадскія ўлады пайшлі на парушэнне закона, своечасова не прынялі рашэнне наконт таго, задавальняюць яны просьбу заяўнікоў на правядзенне акцыі ці не задавальняюць, рэдакцыя газеты "Народная Воля" пакуль не змагла.)*

**Канстанцін ШАЛЬКЕВІЧ, начальнік упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязяў Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі:**

– Неяк пытанне так дзіўна пастаўлена... Відаць, не зусім па адрасе...

З нагоды таго, што горад быў напоўнены міліцыяй, – усё зразумела, ахоўвалі грамадскі парадак.

А затрыманні... Вы што маеце на ўвазе?

***– Калі 25 сакавіка ў цэнтры горада, можна сказаць, усіх без разбору валаклі ў аўтазакі...***

– Не ведаю, каб хапалі там кагосьці. Так, дастаўлялі людзей у райаддзелы для высвятлення абставін іх удзелу ў несанкцыянаваных мерапрыемствах, вось і ўсё.

**Зміцер КАСПЯРОВІЧ, адзін з заяўнікаў акцыі (ад Партыі БНФ):**

– Мне падаецца, што ва ўладных структурах ідзе нейкая ўнутраная барацьба за ўплыў на кіраўніка краіны паміж прарасійскімі сілавікамі і палітыкамі праеўрапейскіх поглядаў. Што, ад жорсткіх дзеянняў сілавікоў палепшыліся стасункі афіцыйнага Мінска і Захаду? Не. Таму відавочна, хто тут найперш атрымаў дывідэнды.

А ўвогуле, па законе гарадскія ўлады павінны былі даць адказ заяўнікам за пяць дзён да пачатку мерапрыемства. Хто ім перашкаджаў яшчэ 20 сакавіка паведаміць, што акцыя, напрыклад, забаронена? Але ж чамусьці цягнулі з рашэннем да апошняга, і ў рэшце рэшт самі справакавалі сітуацыю, у выніку якой сотні людзей аказаліся ў міліцэйскіх "аўтазаках" і ў пастарунках.

**Наталля КРЫВЕЦ, хатняя гаспадыня:**

– Мне здаецца, у гэтым годзе ўлады вельмі дрэнна праінфармавалі, дзе і калі можна адзначаць Дзень 25 Сакавіка. І такім чынам падштурхнулі людзей на непадпарадкаванне. Я з сяброўкамі хаджу на гэта свята да Акадэміі навук шмат гадоў запар – хоць і не пад лозунгамі апазіцыі. Мне проста вельмі падабаецца Дзень Волі: нашы чырвона-белыя сцягі, усе ў прыўзнятым настроі, віншуюць адзін аднаго – як на Першамаі майго дзяцінства. Прыемна бачыць актыўных, незашораных людзей. У гэтым годзе напярэдадні гадавіны позна вечарам я прачытала, што збірацца можна ў парку Дружбы народаў. Абтэлефанавала сяброўак – ідзём у парк! А раніцай трапілася інфармацыя ад старшыні Мінгарвыканкама – усе зборы незаконныя! Мы былі ў разгубленасці. Але ўсё роўна выйшлі на праспект у раёне ЦУМа, каб рушыць да Акадэміі. І ўбачылі тое, што ўсе ўбачылі... І цяпер самі задаём сабе пытанне: чаму? Мой адказ такі: нам хочацца волі, але ўзяць і ўтрымаць яе, волю, свабоду, пакуль яшчэ сіл няма. А шэсце было, дарэчы, вельмі нешматлікае…

**Аляксандр ЛАСТОЎСКІ, кіраўнік прэс-службы Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама:**

– Без каментарыяў.

**Віктар БАБАРЫКА, банкір:**

– Святкаванне 99-й гадавіны БНР для многіх адбылося ў аўтазаках і пастарунках таму, што беларусамі да гэтага часу не вывучаны ўрок, які на працягу апошніх 20 гадоў ім задае жыццё. Моцна засмучае, што пакаранне за нявывучаны ўрок становіцца ўсё больш жорсткім.

**Аляксей ДУДАРАЎ, драматург:**

– Я заўсёды лічыў і лічу, што там, дзе многа людзей, там няма Бога, дзе няма праўды – там таксама няма Бога. А дзе няма Бога – няма святла, а дзе няма святла – там цемра. А хто гаспадарыць у цемры, усім вядома.

Хто праў, хто вінаваты? Улады, апазіцыя? Сёння (*27 сакавіка.* – **Рэд.**) Міжнародны дзень тэатра, гэта я ведаю, і гэта бясспрэчна. А ўсё астатняе – можна і так лічыць, і так. А калі б дазволілі, што было б? Усё гэта бла-бла…

**Андрэй РАДКОЎ, гісторык:**

– Суботнія падзеі нічога, акрамя смутку і заклапочанасці, выклікаць не могуць. Святкаванне 25 Сакавіка – светлага для ўсіх беларусаў дня, калі ў нас з'явілася першая незалежная дзяржава, – на жаль, азмрочылася затрыманнямі і збіццём... Такое стаўленне можа пасеяць глыбокія крыўды і азлобленасць у грамадстве, якое і без таго адчувае на сабе цяжар прасядаючай эканомікі.

Міліцэйская дубінкі – дакладна не лепшы матыватар для наладжвання канструктыўнага дыялогу і вырашэння існуючых эканамічных праблем. Акрамя таго, пад ударам зноў апынуўся імідж Беларусі на міжнароднай арэне, а значыць, і магчымыя інвестыцыі.

Рэзоннае пытанне: дык каму гэта ўсё трэба?













**ПАЗІЦЫЯ ЎЛАД**

Дзмітрый МІРОНЧЫК, прэс-сакратар МЗС Беларусі:

## «Дзеянні праваахоўных структур 25 сакавіка былі абсалютна адэкватнымі»

Дзеянні праваахоўных структур 25 сакавіка былі абсалютна адэкватнымі, гаворыцца ў каментарыі прэс-сакратара МЗС Беларусі Дзмітрыя Міронччыка на заявы Еўрасаюза, ЗША і заходніх палітыкаў пра падзеі ў Беларусі 25 сакавіка.

*«Хачу адзначыць, што права грамадзян на мірныя сходы і свабоднае выказванне меркавання замацавана ў Канстытуцыі нашай краіны. Аднак ключавое слова тут – «мірныя». Калі ж да месца мерапрыемства падвозяць «кактэйлі Молатава», падганяюць аўтамабілі са зброяй, падключаюць анархістаў, то назваць такую акцыю «мірнай» язык не паварочваецца»*, – сказаў Міронччык.

Паводле яго слоў, ва ўмовах нарастання і пашырэння геаграфіі тэрарыстычнай пагрозы ўладам «*важна быць асабліва пільнымі, дзейнічаць на апярэджанне, а не разграбаць наступствы*». «*Менавіта такі ўрок мы вынеслі з нядаўніх тэрарыстычных актаў у Лондане, Берліне, Парыжы, Брусэлі, Ніцы. Менавіта гэтым кіраваліся беларускія ўлады 25 сакавіка. Галоўнай задачай было арганізаваць бяспеку грамадзян і не дапусціць кровапраліцця, асабліва з улікам наяўнай інфармацыі пра правакацыі, якія рыхтаваліся*», – сказаў Міронччык.

Ён адзначыў, што акцыя ў Мінску 25 сакавіка была несанкцыянаванай. «*Удзел у несанкцыянаваных акцыях цягне канкрэтныя наступствы ў любой краіне свету. І што «неeўрапейскага» змаглі разгледзець у дзеяннях нашых праваахоўных органаў заходнія палітыкі? У Мінску разганялі дэманстрантаў вадамётамі? Можа быць, распылялі газ? Не. І, дзякуй богу, абышлося без ахвяр*, – сказаў Міронччык. – *Дзеянні праваахоўных структур былі абсалютна адэкватнымі. І калі быць паслядоўнымі, то тады еўрапейскім інстытутам і палітыкам трэба выказваць «занепакоенасць» і шматлікімі затрыманнямі напярэдадні святкавання юбілею Рымскага дагавора 25 сакавіка, актыўным выкарыстаннем пры разгоне дэманстрацый у еўрапейскіх сталіцах вадамётаў, газу і іншых спецсродкаў*».

«*Але, напэўна, працей па звычцы «пад мікраскопам» разглядаць Беларусь. І не заўважаць пры гэтым, што санкцыянаваныя акцыі ў шэрагу гарадоў нашай краіны ў той жа дзень прайшлі без якіх-небудзь інцыдэнтаў. Лічым неабходным працягваць дыялог і ўзаемадзеянне з нашымі замежнымі партнёрамі ў мэтах лепшага разумення пазіцый адзін аднаго*», – дадаў прэс-сакратар.

**ПАЗІЦЫЯ ДЭМСУПОЛЬНАСЦІ**

## Заява руху «За Свабоду»

Штогод беларуская апазіцыя і грамадзянская супольнасць на масавай вулічнай акцыі адзначаюць Дзень Волі – гадавіну абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэтым годзе свята прайшло ў атмасферы запалохванняў і брутальных затрыманняў. Паводле дадзеных праваабаронцаў, за адзін дзень былі затрыманы больш за 700 чалавек.

Гэтыя дзеянні ўлад сталі працягам ціску на грамадзянскую супольнасць, палітыкаў, журналістаў. Ад хвалі рэпрэсій, якая цягнецца з пачатку сакавіка, раней пацярпелі амаль 400 чалавек.

Рух «За Свабоду» лічыць затрыманні ўдзельнікаў мірных акцый пратэсту незаконнымі. Мы патрабуем ад беларускіх улад гуманнага стаўлення да затрыманых і арыштаваных і іх неадкладнага вызвалення. Мы лічым неабходным надалей адмовіцца ад практыкі прымянення сілы супраць актывістаў.

Супрацоўнікі сілавых структур, вінаватыя ў запалохваннях, збіцці невінаватых, а таксама нанясенні ім і іх маёмасці шкоды, павінны быць пакараны згодна з дзеючым заканадаўствам.

Народная Воля http://www.nv-online.info
28 САКАВІКА 2017 г.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Як затрымлівалі Алеся Лагвінца

*На мінулым тыдні праваахоўныя органы затрымалі палітыка Алеся Лагвінца. На яго накінуліся адразу пяць супрацоўнікаў спецслужбаў і пачалі яго збіваць. Разбілі акуляры. Спачатку з'явілася інфармацыя, што яму нават зламалі нос... "Народная Воля" паспрабавала разабрацца, што гэта было і чаму інтэлігентнага Лагвінца затрымлівалі як буйнога злачынцу.*

ЯК ГЭТА БЫЛО

Антось ЛАГВІНЕЦ:

## «Бацьку працягвалі збіваць, хаця ён не аказваў ніякага супраціўлення...»

"Мы ішлі да машыны, калі на нас напалі нейкія людзі і пачалі выкручваць рукі, – гаворыць Антось. – Іх было пяцёра, усе без формы. Я закрычаў: "Міліцыя, ратуйце!" Тады яны паказалі міліцэйскія пасведчанні і кінулі бацьку на падлогу ў мікрааўтобус. Пачалі збіваць. Я спрабаваў дапамагчы яму і адцягнуць іх, у выніку мяне прыкавалі кайданкамі да падгалоўніка. Пры гэтым бацьку працягвалі збіваць, хаця ён не аказваў ніякага супраціўлення. Потым нас некуды павезлі, мяне праз некаторы час выпусцілі, папярэдне праверыўшы ўсе мае рэчы.

Супрацоўнікі цырульні, што побач, спрабавалі нас адбіць, але..."

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## «Галоўнае, ён жывы...»

*Жонка Алеся Лагвінца Вераніка распавяла "Народнай Волі" не толькі пра здароўе мужа.*

– Алесю ўжо значна лепш, чым было, – *гаворыць Вераніка.* – Дактары сказалі, што, верагодней за ўсё, вялікіх наступстваў ад гэтага збіцця не застанецца.

**– Паведамлялі, што пры затрыманні вашаму мужу зламалі нос...**

– Нос не зламаны, але моцна пашкоджана перагародка, ёсць рана…

Страсенне мазгоў і закрытая чэрапна-мазгавая траўма.

**– У яго ёсць нейкія тлумачэнні наконт таго, што ж на самай спрве адбылося?**

– Канешне, ёсць. Ён бачыў, як усіх затрымлівалі. І тое, што яго таксама затрымалі, яго не здзівіла. Здзівіла тое, наколькі па-бандыцку гэта было зроблена. Відаць, трэба было запужаць людзей перад акцыяй 25 сакавіка.

**– Ведаю, што толькі вам дазволілі яго наведаць...**

– Так, мне і ягонаму старэйшаму сыну Антосю загадчык аддзялення выпісаў спецыяльны пропуск. Дактары патлумачылі, што з улікам стану здароўя Алеся будзе лепей абмежаваць кола наведвальнікаў.

**– Чытала, што ваш муж у бальніцы круглыя суткі быў пад аховай, нібыта вялікі крымінальны аўтарытэт...**

– Так, двое ахоўнікаў былі побач з ім увесь час. Спачатку адзін быў у палаце, другі – перад ёй. Адразу дзяжурылі ў форме, потым – у цывільным.

Алесю было не дазволена карыстацца ягонымі рэчамі, тэлефонам. У прынцыпе, ён і чытаць пакуль не можа, бо баліць галава...

Спачатку ў палаце быў толькі Алесь, яшчэ адзін пацыент і двое ахоўнікаў. А потым пацыента ці то перавялі, ці то выпісалі, і атрымліваецца, што ў палаце, разлічанай на шэсць месцаў, былі толькі Алесь і ягоная ахова.

**– Цікавая, канешне, сітуацыя... А дактары нармальна на гэта рэагуюць?**

– Мы з загадчыкам аддзялення абмяркоўвалі толькі стан здароўя Алеся і тое, як яны яго лечаць.

Калі я прыходжу, ахова слухае, пра што мы размаўляем. Не скажу, што яны праяўляюць нейкую вялікую агрэсію ў мой бок.

**– Алеся абвінавацілі ў дробным хуліганстве – быццам бы лаяўся матам.**

– Думаю, калі б я выйшла ў краму і на мяне напалі нейкія людзі і без тлумачэнняў пацягнулі ў нейкі бусік, я таксама не ўтрымалася б і якое слоўца ўжыла *(смяецца)*. Але звычайна я не заўважала, каб Алесь ужываў мат.

Добра, што яшчэ толькі ў гэтым абвінавацілі. Бо яго так затрымлівалі, быццам ён здзейсніў сур'ёзнае злачынства...

**– У вас маленькае дзіця. Як спраўляецеся без мужа?**

– Мне шмат хто дапамагае. Я спачатку мела вялікі клопат, бо і дзіця на руках, і трэба ўвесь час нешта рабіць з гэтымі паведамленнямі, сачыць за сітуацыяй… Я вельмі цаню дапамогу маіх і Алесевых сяброў. Без іх было б цяжка.

Добра, што пасля затрымання Алеся аддалі ключы ад машыны і дакументы, я магу хоць неяк перасоўвацца.

ЗАПЫТ

## Што адкажа генеральны пракурор?

*Дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Алена Анісім** накіравала афіцыйны зварот на імя генеральнага пракурора Беларусі **Аляксандра Канюка**.*

"23 сакавіка 2017 г. у Маскоўскім раёне г.Мінска быў затрыманы сябра Сакратарыята ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", вядомы палітолаг і грамадскі дзеяч Алесь Лагвінец, – *звяртае ўвагу пракурора спадарыня Анісім.* – Падчас затрымання яго моцна збівалі, у выніку чаго былі нанесены шматлікія пашкоджанні, што запатрабавала неабходнасць выкліку "хуткай дапамогі" непасрэдна ў будынак суда.

У сувязі з гэтым фактам неапраўданага прымянення фізічнай сілы, бо затрыманы не аказваў супраціўлення, прашу Вас неадкладна пачаць пракурорскую праверку ў адносінах да дзеянняў асоб, якія праводзілі затрыманне Алеся Лагвінца. На маю думку, такія дзеянні падлягаюць прыцягненню не проста да адміністрацыйнай, але да крымінальнай адказнасці".

Вядома, што Алеся Лагвінца ўжо апыталі прадстаўнікі пракуратуры наконт таго, што адбылося. Але вынікаў пракурорскай праверкі пакуль няма.

"Народная Воля" будзе сачыць за гэтай справай.

**Марына КОКТЫШ.**

**P.S.** *Учора Алеся Лагвінца выпісалі з бальніцы і ўчора ж над ім адбыўся суд. Яго абвінавацілі ў... лаянцы. Паводле рашэння суда Алесь Лагвінец правядзе за кратамі 10 сутак.*

АБРАКАДАБРА

Максим КОВАЛЬЧУК, сотрудник ОМОНа:

## «Телесные повреждения Логвинец нанес себе сам – бился головой об авто»

Вчера судья Виктор Казак зачитал протокол о том, как задерживали Логвинца: «На улице Космонавтов 23 марта нецензурно ругался».

Логвинец это полностью отрицал.

Свидетель Максим Ковальчук, сотрудник ОМОНа, дал такие показания:

– Логвинец бился головой о сиденье автомобиля. Мы надели ему на руки наручники. Телесные повреждения Логвинец нанес себе сам – бился головой об авто.

Логвинец назвал сотрудника ОМОНа лгуном.

ЕСТЬ ВОПРОС!

*Многие обратили внимание: 25 марта в Минске не было лидеров кампании «Говори правду!» Андрея Дмитриева и Татьяны Короткевич, они уехали праздновать День Воли в регионы. Почему?*

Андрей ДМИТРИЕВ:

## «В Минске у акции нянек было более чем достаточно»

– В Гродно представитель от «Говори правду!» был единственным заявителем акции, посвященной Дню Воли. На нас была вся ответственность за то, как пройдет мероприятие, потому что мы уже видели: формальное разрешение на проведение акции не означает ее безопасности. А в Минске у акции нянек было более чем достаточно...

Мы говорили, что у минских заявителей нет ни плана, ни ясных целей, мы считали, что ее организаторы не поработали над вопросами безопасности. Мы попытались провести акцию там, где можем сделать по-другому, где у нас больше возможностей, в частности, в Гродно. Поэтому я туда и поехал 25 марта.

Хочу отметить, что в Гродно это была первая массовая акция, которую официально разрешили за 15 лет! Хотя тоже не все было гладко. Местные власти сообщили о том, что акцию разрешили, не за пять, а за четыре дня. Понятно, что выделили не центр города. Пришло не так много людей, как хотелось бы, – 200 человек. Но для нас было важно, чтобы все прошло хорошо, сейчас, может быть, главное – это не вопрос численности, а вопрос качества проведения этих акций. И, возможно, на этот пример посмотрят в других городах Беларуси, и там местные власти начнут выдавать разрешения на мирные акции, не будут людей сразу ставить вне закона, как это сделали чиновники Мингорисполкома.

Татьяна КОРОТКЕВИЧ:

## «Беларусь – это не только Минск»

– Одна из причин моего решения поехать в Брест – это желание и стремление поддержать региональные акции, посвященные Дню Воли. Такое было впервые, чтобы на периферии люди тоже праздновали 25 Марта. Кроме того, стратегия «Говори правду!» на год: Беларусь – это не только Минск, все будущие мероприятия мы также планируем делать в регионах.

И, хочу сказать, праздник в Бресте получился. Маршем по центру города прошли человек 500, были и плакаты, и транспаранты с «Погоней», *бел-чырвона-белыя сцягі,* люди скандировали «Жыве Беларусь!», «Пока мы едины, мы непобедимы». Потом состоялся митинг, на котором присутствовали и представители городских властей: руководитель администрации Ленинского района Бреста и председатель горсовета депутатов, который даже выступил перед народом. Это, можно сказать, был такой показательный момент с точки зрения того, что сегодня все говорят о налаживании диалога между оппозицией и властью.

Заявитель акции в Бресте – региональная организация Партии БНФ, но к празднованию присоединились и представители областных структур ОГП, движения «За Свободу», независимые профсоюзы и т.д. И все прошло очень достойно. Некоторые люди пришли впервые на акцию, которую проводила не власть. После митинга я еще посетила мероприятие, которое проходило в брестском ДК профсоюзов с участием «мэра» Бреста и городской администрации, и смогла подойти к микрофону и поздравить собравшихся с Днем Воли!

Кампания «Говори правду!» призывала все региональные власти, и столичные в том числе, разрешить акции, посвященные Дню Воли. И там, где уличные мероприятия были разрешены, все прошло хорошо. А в Минске… На мой взгляд, вся ответственность за произошедшее в столице 25 и 26 марта лежит на Мингорисполкоме, который все отдал на откуп силовым структурам, не взял на себя инициативу, хотя такая возможность у него была. Чиновники должны были заранее встретиться и переговорить с организаторами акции, там все вменяемые люди, никто не хочет никаких эксцессов – только диалог, только мирные перемены, мирное шествие, на что белорусы имеют право по закону. Но Мингорисполком оказался слаб.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Шэсць гадзін на расцяжцы і штраф у эквіваленце 1000 долараў

Суд Цэнтральнага раёна Мінска 27 сакавіка аштрафаваў адказнага сакратара аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Дзяніса Садоўскага на 80 базавых велічынь (1840 рублёў), паведаміла актывістка аргкамітэта Вольга Кавалькова.

Палітык быў прызнаны вінаватым па арт.17.1 (дробнае хуліганства) і 23.4 (непадпарадкаванне законным патрабаванням службовай асобы) КаАП і аштрафаваны адпаведна на 30 і 50 базавых велічынь.

Садоўскі быў затрыманы 25 сакавіка ў 13.35 каля Дома прэсы. Не патрапіўшы да будынка прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук, ён з іншымі актывістамі збіраўся пайсці на плошчу Якуба Коласа, але пад'ехаў мікрааўтобус, з якога выйшлі чатыры чалавекі ў цывільным. Яны выставілі Садоўскаму абвінавачанне па нейкай адміністрацыйнай справе і павезлі з сабой.

Як паведаміў Садоўскі, у Цэнтральным РУУС ён і іншыя затрыманыя стаялі на "расцяжцы" больш за шэсць гадзін, з іх чатыры гадзіны пад снегам і дажджом з закручанымі рукамі. "Такога стаўлення да затрыманых я яшчэ не бачыў", – сказаў ён.

У судзе выступалі сведкамі супрацоўнікі міліцыі. Яны заявілі, што Садоўскі быў у камуфляжы, лаяўся матам і кідаўся на зямлю. На відэа затрымання выразна відаць, што ні першага, ні другога правапарушэння Садоўскі не здзяйсняў, на зямлю не кідаўся і быў апрануты зусім не так, як сведчылі міліцыянты.

Суддзя адхіліў хадайніцтва аб праглядзе відэа. Садоўскі з'яўляўся адным з заяўнікаў акцыі з нагоды Дня Волі, аднак адклікаў заяўку ў сувязі з адсутнасцю адказу Мінгарвыканкама на яе ва ўстаноўленыя законам тэрміны.

БелаПАН.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Мікола Статкевіч – пра тое, як яго затрымлівалі

Паводле яго слоў, 23 сакавіка ён зранку «адарваўся» ад назірання, уцёк у метро, паехаў на кватэру да знаёмых.

Каля 21.30 таго ж дня ў тую ж кватэру прыйшлі праваахоўнікі. Статкевіч кажа, што не меў з сабой электронных прылад, па якіх яго можна было б адсачыць. Кватэру, дзе ён знаходзіўся, адчынілі фомкай. Тыя, хто яго затрымліваў, паказалі пасведчанні супрацоўнікаў МУС, яго затрыманне здымалі на відэа. З кватэры яго вывелі ў «шыкоўны Лексус», нацягнулі на вочы шапку. Адвезлі ў СІЗА КДБ. Ён расказвае, што з ім размаўляў следчы Васілеўскі.

*"Мне паказалі пастанову аб завядзенні крымінальнай справы аб масавых беспарадках. Маўляў, з 2011 года я рыхтаваў беспарадкі. Смешна, я быў у зняволенні ў гэты час! Дакумент быў зацверджаны першым намеснікам І.Сергіенкам 21 сакавіка".*

Справу «Белага легіёна» Статкевіч называе «справай аб «Зарніцы».

*"Мяне змясцілі ў камеру СІЗА КДБ. Я калі выходзіў у прыбіральню, то крычаў іншым: «Тут знаходзіцца Мікалай Статкевіч».*

*У палове сёмай раніцы сёння* (27 сакавіка. – **Рэд.**) *мяне вывелі з камеры, абшукалі, аддалі рэчы. Пасадзілі ў мікрааўтобус, сказалі, што вязуць на следчыя дзеянні. Але я пабачыў, што вязуць па Партызанскім праспекце, вывезлі ў бок Магілёва, збочылі на Жодзіна, выпусцілі на прыпынку "Сокал". Тэлефанаваў жонцы, не змог датэлефанавацца. Узяў таксі і даехаў да дому".*

ПАДМОСТКІ

## Прэмія тайная, таму што невялікая

Учора на ўрачыстым вечары ў Драматычным тэатры Беларускай арміі раздавалі штогадовыя крыштальныя "Паўлінкі», а таксама "Анёлкі", "Зоркі" і "Кветкі". Перш за ўсё са сцэны прагучала імя выбітнай спявачкі, народнай артысткі СССР Тамары Мікалаеўны НІЖНІКАВАЙ. Праўда, у тэатр найстарэйшая беларуская спявачка прыйсці не змагла, а таму і прыз, і грашовую прэмію, а таксама букет кветак ёй уручылі напярэдадні падзеі дома асабіста старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў Аляксей Дудараў і член праўлення Валянцін Елізар'еў.

Мы пацікавіліся памерам тэатральнай прэміі. Аляксей Ануфрыевіч быў непахісны і так патлумачыў адмову назваць лічбы: «На жаль, прэмія невялікая, і мне ад гэтага горка. Што ж, колькі можа грамадскае тэатральнае аб'яднанне, столькім і ўзнагароджвае».

Таксама за адданасць беларускаму нацыянальнаму тэатру і шматгадовую творчую працу «Крыштальная Паўлінка» і прэмія ўручаны артысту Беларускага ТЮГа, заслужанаму артысту БССР Барысу БАРЫСЁНКУ.

Прыз "Крыштальны анёлак" і прэмія ўручаны артысту віцебскага тэатра "Лялька" Алегу РЫХТЭРУ.

«Крыштальная зорка» ўручана артысту Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра ім. М.Горкага Валерыю ШУШКЕВІЧУ.

А за яркі таленавіты дэбют у 2016 годзе «Крыштальныя кветкі» атрымалі вакалістка Музычнага тэатра Вольга ЖАЛЕЗКАЯ і артыст тэатра імя М.Горкага Павел ЕЎТУШЭНКА.

**Анжаліка КУЗНЯЦОВА.**

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## Ці будуць аштрафаваны чыноўнікі Мінгарвыканкама?

Відавочны факт: кіраўніцтва Мінскага гарвыканкама парушыла закон – нясвоечасова разгледзела заяўку актывістаў дэмакратычнага руху наконт правядзення акцыі ў сувязі з 99-й гадавінай абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Ці панясуць чыноўнікі адказнасць?

Каменціруе юрыст **Уладзіслаў Лабковіч**:

– У законе "Аб масавых мерапрыемствах" напісана: *"Кіраўнік мясцовага выканаўчага і распарадчага органа або яго намеснік абавязаны разгледзець заяву і не пазней як за пяць дзён да даты правядзення масавага мерапрыемства ў пісьмовай форме паведаміць яго арганізатару (арганізатарам) аб прынятым рашэнні".* Гэта павінен быў зрабіць Андрэй Шорац альбо адзін з ягоных наменікаў. Паколькі гэтага не было зроблена, заяўнікі маюць права звярнуцца ў пракуратуру з заявай, каб у межах агульнага пракурорскага нагляду за законнасцю была дана прававая ацэнка дзенням чыноўнікаў і яны былі прыцягнуты да адказнасці. Бо па сутнасці людзей абмежавалі ў праве на правядзенне акцыі, а ў нашым заканадаўстве ёсць крымінальная адказнасць за гэта. Праўда, гэты артыкул ніколі не дзейнічаў, але ён ёсць… Акрамя таго, чыноўнікі парушылі закон аб зваротах грамадзян, не даўшы грамадзянам адказ у вызначаны законам тэрмін, і як службовыя асобы яны могуць быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. Санкцыі па ёй – штраф у памеры ад чатырох да 20 базавых велічынь.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

АФІЦЫЙНА

## КДБ – пра словы Статкевіча аб знаходжанні ў СІЗА

Афіцыйны прадстаўнік КДБ Беларусі **Дзмітрый Пабяржын** адмовіўся каментаваць заявы Статкевіча пра сваё ўтрыманне ў следчым ізалятары КДБ у Мінску.

На пытанне Радыё Свабода пра цяперашні статус Статкевіча і на якой падставе яго вызвалілі, быў выказаны сумнеў, што той наогул знаходзіўся ў іх.

*«У прэс-службе няма звестак, што Статкевіч знаходзіўся ў КДБ»*, – сказаў афіцыйны прадстаўнік ведамства **Дзмітрый Пабяржын.**



Народная Воля http://www.nv-online.info
28 САКАВІКА 2017 г.

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# «Мінская праўда» ў палоне манкуртаў

*31 студзеня "Народная Воля" змясціла артыкул Аляксандра Навіцкага "Прэса пад рускамоўным прэсам, або Ваяўнічая змова супраць беларускай мовы", больш за трэць якога была прысвечана "Мінскай праўдзе". З таго часу прайшло амаль два месяцы. Што ж змянілася пасля крытыкі, ці зроблены ў рэдакцыі хоць якія высновы з яе і ці стала газета сталічнай вобласці больш беларускамоўнай – на гэтыя і іншыя пытанні мы паспрабавалі знайсці адказы.*

Мы не ставім сабе на мэту прааналізаваць з усіх бакоў змест газеты, да гэтага яшчэ вернемся. Сёння толькі скажам: чытаеш матэрыял за матэрыялам – і такое адчуванне, што журналісты абласной газеты не адчуваюць пульс жыцця. У сталічным рэгіёне, як і ў краіне, сёння столькі праблем, а на газетных старонках – цішыня ды любата. Ні табе глыбокага крытычнага артыкула, які закранаў бы за жывое, ні заклапочанасці незайздросным станам вытворчасці на большасці прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў ды запаволеным збытам выробленай прадукцыі з-за збяднення насельніцтва і адсюль нізкага спажывецкага попыту. Быццам нічога ў вобласці і не адбываецца, адзін толькі прэзідэнцкі дэкрэт №3 у апошні час на слыху.

Стоп! Мы ж сказалі, што сёння наша размова не пра змест газеты, да яго яшчэ сапраўды вернемся. Пакуль жа – выключна пра мову выдання. І пачнём ад канца.

У нумары ад 22 сакавіка на ўсе 16 газетных палос на беларускай мове толькі адна калоначка пра мерапрыемствы, запланаваныя на Міншчыне ў рамках святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, ды два вершыкі Святланы Быкавай.

У нумары ад 18 сакавіка на беларускай мове тры малюсенькія інфармацыі ў "Дайджэсце", рэкламная старонка пра агракомплекс "Белая Русь" ды рэпартаж з выязнога пасяджэння пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па працы і сацыяльных пытаннях у Валожынскім раёне.

У нумары ад 1 сакавіка на роднай мове ўсягусенькі дзве пашыраныя інфармацыі ды вершы Сяргея Карыцькі (самага любімага і запатрабаванага рэдакцыяй паэта, быццам на Міншчыне іншых няма). І гэта ў нумары з шаснаццаццю палосамі. Дзясяткі самых розных матэрыялаў, але не на сваёй, роднай, мове, а на мове іншай краіны. Шануем чужое, але толькі не сваё. Якое недаравальнае бяспамяцтва, якое духоўнае ўбоства!

Тая ж самая карціна і ў астатніх лютаўска-сакавіцкіх нумарах. Не пералічваю публікацыі, каб не стамляць чытачоў, хоць наўрад ці стаміў бы, бо напісанага па-беларуску тут, як кажуць, кот наплакаў. Бываюць нумары, у якіх акрамя выходных дадзеных і прозвішча рэдактара, на беларускай мове – ані слоўца! Поўны здзек з роднага слова, з нацыянальнага заканадаўства, са здаровага сэнсу! Вы можаце ўявіць, каб у суседняй Польшчы толькі назвы газеты выходзілі на польскай мове, а тэксты ўсіх (альбо амаль усіх) матэрыялаў падавалі, скажам, на нямецкай?

Не-не дый можна пачуць: у нас жа двухмоўе. Не будзем казаць, да чаго такое "двухмоўе" прывяло тутэйшых манкуртаў, але калі законам дазволена выкарыстанне мовы суседняй усходняй краіны, то дзе згубілася наша роднае, беларускае слова? Чаму яно, лічы, знікла са старонак "Мінскай праўды"? Хіба ж нельга падаваць на роднай мове абвесткі пра культурныя мерапрыемствы, праводзімыя ў вобласці, ці весці тую ж рубрыку "Листая календарь", як гэта зрабіла рэдакцыя ў нумары ад 22 лютага (а чаму не заўсёды?)? Пагадзіцеся, што пісаць пра народныя традыцыі не на мове свайго народа – гэта поўны абсурд! А пра што думала Алена Крылова, пішучы па-руску артыкул "Особенности национального воспитания" пра беларускамоўны Саскаліпкаўскі дзіцячы садок Нясвіжскага раёна, які быў змешчаны ў згаданым вышэй нумары? Няўжо не адчувала абсалютную недарэчнасць сваёй пісаніны? Дзе-дзе, а ў садку ж яго прачыталі! І што, скажаце, падумалі пры гэтым – і пра журналістку, і пра газету? А ёсць жа станоўчы прыклад у самім калектыве рэдакцыі – Святлана Адамовіч, якая нават рэкламныя артыкулы падае па-беларуску, і ад гэтага, думаю, рэкламадаўцы меней не заплацілі, а рэклама не стала менш дзейснай.

Само сабой напрошваецца пытанне: што ж, людцы, гэта адбываецца? Чаму газета, якая ў савецкі час, калі Беларусь уваходзіла ў склад СССР, была цалкам беларускамоўнай, цяпер, калі рэспубліка стала незалежнай дзяржавай, раптам ледзьве не цалкам пачала выдавацца на мове, паўторым, нашай усходняй суседкі? Няўжо журналісты-"мінскапраўдаўцы" думаюць, што калі матэрыялы пісаць па-руску, то выданне будуць выпісваць і чытаць, а калі ў ім раптам стане больш беларускай мовы, то ў многім адміністрацыйна зроблены 18-тысячны тыраж значна зменшыцца? Лухта ўсё гэта! І пры тым – поўная. Хто чытаў газету – той і будзе чытаць; каго прымусяць падпісацца на яе – той і падпішацца. І мова тут абсалютна ні пры чым.

Дык у чым жа тады справа? Хутчэй за ўсё, у галоўным рэдактары і саміх журналістах, якія проста непрафесійна выконваюць свой прафесійны абавязак, парушаючы яшчэ пры ўсім і ўласны рэдакцыйны статут. Не думаю, што яны не ведаюць беларускай мовы; іншая справа, што не карыстаюцца ёй у паўсядзённым жыцці, а таму па-руску выказаць свае думкі ім, бачыце, нашмат прасцей. Усё ж няма неабходнасці зазіраць у слоўнік. Ды і сваіх рускамоўных субяседнікаў перакладаць не трэба: запісаў размову на дыктафон – і, крыху падгабляваўшы, адразу гані ў друк.

У душах такіх абыякавых да роднай мовы журналістаў – ані грама патрыятызму. Яны – звычайныя манкурты, якія не ведаюць, на каго працуюць, але толькі не на Беларусь, не на свой народ. Гэта якраз і ёсць тая самая "пятая калона", якая ў любы зручны (ці, больш правільна, нязручны для яе) момант гатова здаць каму заўгодна краіну і спакойна, як быццам нічога і не здарылася, працаваць на любую іншую дзяржаву.

Няўжо гэта ніколькі не трывожыць уладных мужоў, напрыклад таго ж старшыню аблвыканкама Сямёна Шапіру, яго намеснікаў, ідэалагічны аддзел, старшыню аблсавета дэпутатаў Івана Ліпніцкага? Ці, можа, яны не чытаюць заснаваную імі газету? А калі чытаюць, дык няўжо не могуць паставіць на месца галоўнага рэдактара "Мінскай праўды" Вольгу Шпілеўскую? Ці, крый Божа, самі і пасадзілі манкурта ў рэдактарскае крэсла, каб праз яго ажыццяўляць антынацыянальную палітыку? Калі так, то гэта, як кажуць, не лезе ні ў якія вароты.

Заступнікі Вольгі Шпілеўскай спасылаюцца на тое, што пад яе кіраўніцтвам палепшылася фінансавае становішча рэдакцыі. Што ж, станоўчы факт, але камерцыялізацыя выдання, стаўка на рэкламныя публікацыі, якія добра аплачваюцца заказчыкамі, – не галоўная місія газеты "Мінская праўда". Калі на першым плане грошы, то можна застацца без душы. Пазбаўляючы беларусаў свайго, адметнага, слова, мы фактычна пакідаем іх без самага галоўнага – духоўнай спадчыны.

Народ не даражыць роднай мовай? Няпраўда!!! Бібліятэкары і прадаўцы кнігарняў "Белкнігі" ў адзін голас сцвярджаюць, што ў апошні час павысілася цікавасць да кніг на беларускай мове. Чаму ж гэтую сітуацыю не ўлічваюць газетчыкі "Мінскай праўды"? Нюх страцілі ці па-ранейшаму спяць на старых парудзелых прасцінах? Няўжо забыліся, што яны павінны не толькі ісці ў нагу з часам, але хоць бы на паўкроку апярэджваць яго? Вучыцца самі і вучыць іншых. Фарміраваць нацыянальны светапогляд, іначай мы так і не дарасцём да яшчэ дагэтуль не сфармуляванай нацыянальнай ідэі. А яна і ў тым, каб любіць сваё, спадчынна беларускае, бо колькі б мы ні гаварылі пра незалежную Беларусь, яна ніколі не стане такой, калі страціць сваю мову. Чым мы, беларусы, тады будзем адрозніваца ад цвярскіх, пензенскіх, валагодскіх ці тамбоўскіх? Хіба тым, што гэта мы да іх шчэмімся, а не яны да нас.

Прэзідэнт Беларусі пастаянна падкрэслівае, што ніколі нікому ні за што не здасць Беларусь і яе суверэнітэт. А ці ведае Аляксандр Рыгоравіч, што журналісты многіх беларускіх СМІ, у тым ліку і "Мінскай праўды", яго ўжо даўно здалі? Яны і самі падрыхтаваліся да аб'яднання з той жа, напрыклад, Расіяй, і беларусаў у гарадах і вёсках спакваля рыхтуюць да гэтага. Каб потым на хаду не прыйшлося перавучвацца.

Ёсць нямала падстаў лічыць, што абсалютна беспрынцыпную пазіцыю ў моўным пытанні займае і Міністэрства інфармацыі на чале з міністрам Ліліяй Ананіч. А менавіта яно павінна сачыць за выкананнем калектывамі рэдакцый закона аб сродках масавай інфармацыі і іх уласных статутаў. Ды толькі паўсядзённая карпатлівая праца з зарэгістраванымі ім выданнямі – пэўна, не для гэтага ведамства. Няўжо і міністэрскія работнікі – з той самай "пятай калоны" і ў адносінах да беларускай мовы па чыімсьці заказе выступаюць у якасці кілераў? Але ж з кілерамі, як вядома, таксама не цырымоняцца. Прыйдзе і іх час расплачвацца за зробленае ці, як у нашым выпадку, нязробленае, бо не будзе дзяржавы – не будзе і іх. Спахопяцца, але глядзі, каб позна не было. Прывучаныя да нечага людскія масы не так проста павярнуць назад.

**Алесь КАВАЛЕВІЧ.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО

На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК.

### Заказаў, але не купляў

***Ці трэба мне плаціць нейкую кампенсацыю, калі заказаў ноўтбук у інтэрнэт-магазіне, але выкупляць яго не стаў?***

**Сяргей БЯЛЬЧУК, г.Пінск.**

– Не трэба.

### Праблемы з дзіцячым веласіпедам

***Набылі дзіцячы веласіпед, але праз два дні кола здзьмулася. Не думаю, што пракалолі яго за такі кароткі тэрмін. Што ў такой сітуацыі рабіць? Звяртацца ў магазін? Зрабіць экспертызу?***

**Аксана ГУБАРЭВІЧ, Гродна.**

– Звяртайцеся з прэтэнзіяй у магазін.

ВІНШУЕМ!

## Алегу Шагуліну – 80!

Вітаем цябе, нястомнага і нязломнага змагара-агітатара за ачышчэнне памяці беларусаў ад бруду маскоўска-расійскіх міфаў аб нашым мінулым, за вяртанне адноўленай дзяржаве лепшых традыцый і канстытуцыйных дасягненняў, якія былі падчас Вялікага Княства Літоўскага!

Моцнага табе здароўя і творчых поспехаў! Няхай лунае над намі славуты радзівілаўскі покліч «Гэй, ліцьвіны, Бог нам раіць!». З Богам – пераможам!

**Твае сябры-аднадумцы (адраджэнцы).**

ПАМЯЦЬ

Ніл ГІЛЕВІЧ:

## «Будзем аптымістамі!»

### 29 сакавіка мінулага года не стала народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча.

*За некалькі месяцаў да смерці Ніл Сымонавіч, які з-за цяжкага стану ўжо не першы год не выходзіў з дому, даў інтэрв'ю Саюзу беларускіх пісьменнікаў, сябрам якога ён з'яўляўся на працягу ўсяго свайго творчага жыцця. Вось некалькі цытат адтуль.*

...Без усведамлення, што такое мова ў жыцці народа, што такое нацыянальная культура, нацыянальная гісторыя, у народа не можа быць будучыні. Дык вось, на вялікі жаль, гэту ісціну, апрабаваную дзясяткамі народаў на працягу стагоддзяў, у нас разумеюць далёка не ўсе. І таму ўзнімаюць пытанні, патрабуюць вырашаць эканамічныя праблемы, сацыяльныя, экалагічныя і іншыя. Не ўсведамляючы, што наперадзе ўсіх праблем павінна ісці праблема мовы.

Сказаў жа некалі першы вялікі, першы народны беларускі паэт Францішак Багушэвіч: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Усё! Што ж незразумелага? Калі не хочам памерці, а хочам жыць, значыць, павінны перш за ўсё ратаваць мову.

...У мяне на маладых вялікая-вялікая надзея. Я некалі і верш напісаў «Кліч да беларускай моладзі» і заклікаў не падаць духам: «Не падайце духам, хлопцы, і гнеў не тапіце ў стопцы». Толькі так.

...Вельмі бывае цяжкі настрой ад усёй брыдоты, якую бачыш, чуеш. Але, як у народзе кажуць, перажылі зіму, перажывём і лета…

. . . Будзем аптымістамі, іншага не дадзена. Будзем верыць у нашу праўду, у нашу перамогу.

### І ўсё ж мы дойдзем да Беларусі!

За векам век плыве-цячэ,
А мы ідзем, ідзем… І што ж?
О, як далёка нам яшчэ
Да Беларусі!

Ужо няўсцерп нам крыж пакут,
І мы крычым, крычым, але –
Не дакрычаліся пакуль
Да Беларусі.

А можа быць, яна – міраж,
І ўсе мы трызнім? Бо чаму ж
Не далятае голас наш
Да Беларусі?

Відаць, пракляцця знак ляжыць
На нас ад роду, і таму
Так цяжка шлях нам церабіць
Да Беларусі.

Равуць вятры, грымяць грамы,
Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,
І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы
Да Беларусі!..

### Я – беларус

Я – беларус, я нарадзіўся
На гэтай казачнай зямлі,
Дзе між лясоў і пушчаў дзікіх
Адвеку прашчуры жылі.
Я – беларус, я ганаруся,
Што маю гэтае імя:
Аб добрай славе Беларусі
У свеце знаюць нездарма!
Я – беларус, і я шчаслівы,
Што маці мову мне дала,
Што родных песень пераліва
І зблізку чую, і здаля.
Я – беларус, і хоць сягоння
Яшчэ малы, але скажу:
Я родам з племя непакорных
І прад бядой не задрыжу!..

### Як жа сталася?

Не паверацьь, напэўна, нашчадкі,
Што такія былі ў нас парадкі,
Што дурнілі нас так верхаводы –
Ненавіснікі нашай свабоды,
Нашай мовы, і кнігі, і песні,
Нашых скарбаў і нашых святынь, –
Усяго, што мы ў душах пранеслі
Праз стагоддзяў смяротную стынь.

Як жа сталася, як гэта выйшла,
Што пад выжлаю шчэрыцца выжла,
А пад быдлам скацініцца быдла,
А пад хлусам крыўляецца хлус,
А пад злодзеем хмыліцца злодзей,
А пад лёкаем мыліцца лекай,
А пад гнусам капошыцца гнус,
А пад гэтым усім – беларус?

### Кляновы лісток

Вястун неспадзеўны –
кляновы лісток
Ляжыць на далоні:
Ці позва на суд ці на шчасце квіток,
Мне Богам дароны?

Пра шчасце, як грэшніку
ў пекле пра цуд,
Мне марыць запозна.
Напэўна, на страшны і праведны суд
Ад Бога мне позва.

Чаму ж бо, паведай, лісток-варажбіт,
Мне сэрца так ціснe?
Чаму мае думы на ўвесь краявід,
Як хмары, навіслі?

Што тонкія жылкі-пражылкі твае
Вяшчаюць-варожаць?
Ці ласку, якая душу мне спаўе,
Ці стынь і варожасць?

Скажы ж, не таіся, калі сапраўды
Ты Божы пасланнік.
Чыесьці дарогі... Чыесьці сляды...
Чыесьці расстанні...

Гляджу-углядаюся ў рыскі-штрыхі,
Бы ў лёсу пісьмёны:
Чыесьці надзеі... Чыесьці грахі...
Чыесьці імёны...

Чыесьці тут лёсы, чыесьці... А дзе ж
Майго наканаваны?
Ці мне, на астатку, не ведаць іх лепш,
Лісточак кляновы?

### З асабістай справы

Ніл Гілевіч нарадзіўся 30 верасня 1931 года ў вёсцы Слабада Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча імя Н.К.Крупскай (1951), а таксама філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1956). Кандыдат філалагічных навук, прафесар. У 1958–1963 гадах працаваў літаратурным кансультантам газеты «Звязда». З 1960 года працаваў на кафедры беларускай літаратуры БДУ. У 1980–1989 – першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. З 1989-га па 1997 год – старшыня рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Ініцыятар заснавання і на пачатковым этапе выдання галоўны рэдактар газеты ТБМ «Наша слова». Ніл Гілевіч з 1960-х гадоў актыўна выступаў за беларусізацыю, у якасці дэпутата Вярхоўнага Савета 11-га склікання быў адным з ініцыятараў прыняцця Закона аб мовах. У Вярхоўным Савеце 12-га склікання з чэрвеня 1990 года ўзначальваў пастаянную Камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

Адзін з сустаршыняў Усебеларускага з'езда за Незалежнасць (ліпень 2000 года).

За свой кошт выдаў 23 тамы Збору твораў. Напрыканцы 2013 года выйшаў апошні, 23-і, том.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Аляксей ГРЫШЫН: «Хачу адкрыць сваю школу»

*Алімпійскі чэмпіён па фрыстайле распавёў “Народнай Волі”, чым ён займаецца пасля таго, як сышоў з вялікага спорту.*

**Аляксей ГРЫШЫН** увайшоў у гісторыю беларускага спорту як першы алімпійскі чэмпіён зімовых Гульняў. Трыумфальнае выступленне фрыстайліста на Алімпіядзе-2010 у Ванкуверы балельшчыкі будуць помніць доўга. Але першы алімпійскі медаль – “бронзу” – ён здабыў яшчэ ў 2002 годзе ў Солт-Лейк-Сіці. Акрамя гэтага, на рахунку фрыстайліста тры медалі сусветнага першынства і шматлікія перамогі на этапах Кубка свету.

Пасля Гульняў-2014 у Сочы, падчас якіх Аляксею Грышыну не ўдалося нават трапіць у фінал, спартсмен вырашыў павесіць лыжы на цвік…

– Чым зараз займаюся? – перапытвае былы спартсмен. – У асноўным прыходжу ў сябе пасля жыцця ў вялікім спорце. Аднаўляю сілы, да гэтага часу даводзіцца лячыць спіну і калені…

**– Прафесійныя хваробы фрыстайлістаў?**

– Так, пастаянныя прызямленні, падзенні, кампрэсійныя ўдары – яны ўвесь час нагадваюць пра сябе. Усё гэта, безумоўна, выходзіць бокам. Медалі, слава, узнагароды і прэміі ўжо забыты, на парадку дня – паходы па дактарах. Але ж ніхто ніколі не ўтойваў, што фрыстайл – гэта від спорту з групы рызыкі. Таму, як кажуць, ведала котка, якую каўбасу ела.

**– Вам гэтую “каўбасу” бацькі падклалі?**

– Натуральна. У малым узросце я яшчэ быў не настолькі самастойны, каб прымаць нейкія ўласныя рашэнні па выбары віду спорту. Да таго ж фрыстайл з’явіўся не адразу. Спачатку быў балет, а потым ужо акрабатыка. Але і самі бацькі добра не ведалі, што такое фрыстайл. Скача сын на батуце – і няхай скача. Маўляў, ужо нядрэнна, што не цягаецца без справы па вуліцы.

**– Сёння вы параілі б іншым бацькам аддаваць сваіх дзяцей займацца такім траўманебяспечным відам спорту, як фрыстайл?**

– А гэта гледзячы па тым, для чаго аддаваць. Каб прыйсці і, прабачце, проста пабалдзець – тады не мае сэнсу. Таму што ад гэтага нікому не будзе карысці. Калі ж падысці да справы сур’ёзна, паставіць мэту і ісці да яе, то чаму б і не? А траўмы, дарэчы, практычна ва ўсіх відах спорту можна атрымаць.

**– Адным словам, спорт у абмен на здароўе…**

– У пэўным сэнсе згодны з вамі, але, калі кіравацца такой логікай, то лепш наогул з дому ўсё жыццё не выходзіць. Так будзе бяспечней.

**– Беларускі фрыстайліст Дзмітрый Рак у 2006 годзе атрымаў траўму, ад якой не ачомаўся да гэтага часу. Наведваецеся да яго?**

– Я зараз вельмі шмат часу праводжу ў раз’ездах, таму, на сорам, наведацца ўсё не выпадае. Але ж ад сваіх таварышаў па спорце ведаю, што Дзіма аднаўляецца, хаця вельмі марудна. Ён ходзіць, размаўляе, піша, але, відаць, засталася тая ж праблема “кароткай памяці”, калі чалавек добра памятае, напрыклад, што было дзесяць гадоў таму, але забывае размову, якая адбылася толькі што. Вы ж разумееце: адна справа – аднаўляцца ў Мінску, і зусім іншая – калі б было фінансаванне і можна было пастаянна адпраўляць Дзіму на рэабілітацыю ў замежныя спецыялізаваныя клінікі. На жаль, такой магчымасці няма.

**– На ваш погляд, ад такога падзення, што здарылася з Дзмітрыем Ракам у Кітаі, ніхто з фрыстайлістаў не застрахаваны?**

– Абсалютна ніхто, гэта магло здарыцца з кожным. Іншая справа, што Дзіма ўжо ў першы дзень трэніроўкі атрымаў мікратраўму. Ён гэта адчуваў, бачылі гэта і мы. Не выключана, ужо тады было страсенне мазгоў. Магчыма, яму тады трэба было змірыцца з сітуацыяй і не ўдзельнічаць у старце. Але ж вы разумееце, што ўсе мы – максімалісты, а таму часам хочацца больш, больш і больш…

**– Наколькі вядома, вы пасля сыходу з вялікага спорту заняліся бізнесам. Як атрымліваецца?**

– Марудна, але ўпэўнена рухаемся наперад. Па вялікім рахунку, гэтак жа, як і ў спорце. І калі ёсць хоць маленькія крокі наперад, то гэта ўжо вынік.

**– Чым займаецца ваша фірма?**

– Будаўнічым бізнесам.

**– А што з планамі наконт уласнай спартыўнай школы?**

– Іх ніхто не адмяняў, хачу адкрыць школу па фрыстайле, якая насіла б маё імя. Праект, безумоўна, няпросты, але ўпэўнены, што пры жаданні можна зрабіць усё. Сказаць “цяжка” – гэта адно, сказаць “немагчыма” – зусім іншае. Буду спрабаваць… Патрэбны грошы, вялікае памяшканне, праект залы, якая падыходзіла б для заняткаў. Я збіраюся наогул рабіць упор на юных спартсменаў, якіх буду рыхтаваць для зборнай.

**– Вядомы беларускі гімнаст Віталь Шчэрба, які адкрыў сваю гімнастычную школу ў Амерыцы, распавядаў мне, што большасць бацькоў прыводзіць да яго сваіх дзяцей зусім не для таго, каб тыя затым патрапілі ў нейкую зборную, а проста для агульнафізічнага развіцця…**

– Калі камусьці не падабаецца від спорту альбо нехта баіцца атрымаць траўму, то, натуральна, дзіця зможа займацца, каб атрымаць тое ж самае агульнафізічнае развіццё. Сфарміраваць фізічную форму, вестыбулярны апарат… Усё гэта мы зможам даць без планаў на алімпійскія медалі і трайное сальта з чатырма вінтамі.

**– У вас будуць платныя групы?**

– А хто пойдзе ў платную школу Аляксея Грышына, калі ў нас ёсць бясплатная дзяржаўная падрыхтоўка фрыстайлістаў? Акупляцца збіраемся за кошт іншага – можна адкрыць трэнажорную залу, нешта яшчэ.

**– Калі плануеце ажыццявіць свой праект?**

– Як кажуць, галоўнае, каб нашы жаданні супадалі з нашымі магчымасцямі. Адно магу сказаць: сур’ёзна займацца гэтай справай пачну праз год.

**– Аляксей, а што для вас было складаней за ўсё ў бізнесе пасля таго, як пакінулі спорт?**

– Перажыць пераходны перыяд, хаця зараз ужо поўнасцю пераключыўся на ішую сферу дзейнасці.

**– Можа быць, час ад часу яшчэ забіраецеся на трамплін, каб успомніць лепшыя спартыўныя гады?**

– Калі я забяруся на трамплін, то ў мяне адразу “выскачаць” усе старыя хваробы. Мяне і так кожны дзень спіна непакоіць. І чамусьці па начах альбо пад раніцу. Таму лішні раз рызыкаваць і даваць дадатковую нагрузку на хрыбет – гэта было б проста дзіцячым глупствам. Спорт для мяне – гэта ўжо мінулы этап…

**Алесь СІВЫ.**

НОВЫЯ ІМЁНЫ

# Андрэй ХЛЕБАСОЛАЎ: «Зоркі трэба даставаць…»

*Бацька 18-гадовага беларускага форварда распавёў “Народнай Волі”, як яго сын патрапіў у футбольную акадэмію іспанскага клуба “Левантэ”.*

Днямі Tribuna.com паведаміла: *“18-гадовы беларускі форвард Міраслаў Хлебасолаў пацвердзіў інфармацыю пра тое, што ён падпісаў прафесійны кантракт з «Левантэ».*

*Раней паведамлялася аб тым, што Міраслаў навучаецца ў акадэміі іспанскага клуба з 2015 года. Па дасягненні 18-гадовага ўзросту беларус атрымаў магчымасць падпісаць прафесійны кантракт”.*

– Больш правільна ўсё-такі сказаць, што сын падпісаў на паўтара года аматарскі кантракт, а не прафесійны, – *удакладняе мне бацька футбаліста* ***Андрэй ХЛЕБАСОЛАЎ***. – Але зараз ён ужо мае права гуляць у афіцыйных матчах за дублёраў “Левантэ”. Адначасова Міраслаў навучаецца ў футбольнай акадэміі гэтага ж клуба.

**– Футбольная акадэмія – гэта гучыць…**

– У Іспаніі пры клубах шмат такіх устаноў, яны нагадваюць нашы вучылішчы алімпійскага рэзерву, калі спартсмены там і жывуць, і вучацца ў школе, і займаюцца спортам. Адным словам, вось ужо амаль два гады гэтае месца для Міраслава стала другім домам. Дарэчы, такія акадэміі сталі ствараць ужо і некаторыя беларускія клубы, так што рухаемся ўслед за астатнім прагрэсіўным футбольным светам.

**– Як Міраслаў наогул патрапіў у Іспанію?**

– У пэўным сэнсе гэта была выпадковасць. Агент паведаміў, што ў сына ёсць магчымасць паехаць на стажыроўку ў “Левантэ”, якую можа арганізаваць адна жанчына, што нарадзілася ў нашых родных Баранавічах, але затым пераехала жыць у Іспанію. Грэх было не скарыстацца такім шанцам, тым больш што мы нічога не гублялі. Міраслаў сам зрабіў відэападборку матчаў са сваім удзелам, адправіў у іспанскі клуб, а праз некалькі месяцаў адтуль прыйшло запрашэнне прыехаць у акадэмію. І да гэтага часу ён там.

**– Трэба нешта плаціць за навучанне?**

– Фінансавыя выдаткі ўзяў на сябе “Левантэ”, але калі сын падпіша прафесійны кантракт, то клуб таксама будзе нешта з гэтага мець. Так што для нас, бацькоў, дадатковай грашовай нагрузкі не было. Хіба што аплачвалі квіткі за пералёты, калі Міраслаў прылятаў дадому яшчэ да падпісання аматарскага кантракта.

**– Наколькі складана даводзіцца ў іспанскай акадэміі маладому беларускаму футбалісту?**

– Самая вялікая складанасць у першыя часы для яго была вывучыць іспанскую мову. Наколькі мне вядома, размаўляў з таварышамі па акадэміі праз гугл-перакладчык, хаця некалькі базавых слоў ведаў. Але зараз шпарыць па-іспанску – будзь здароў!

**– Акадэмія шматнацыянальная?**

– Ёсць футбалісты з іншых краін, але пераважна там іспанцы. І яны ніяк не маглі зразумець, дзе тая Беларусь знаходзіцца, калі Міраслаў ім распавядаў пра нашу краіну. Давялося некалькі разоў тлумачыць, што мы – не Расія, а асобная незалежная дзяржава. Дарэчы, з краін былога Саюза ў акадэміі больш нікога няма.

**– А дзе жывуць футбалісты?**

– На футбольнай базе, дзе трэніруецца і асноўны склад “Левантэ”, і маладзёжная каманда. Адным словам, адна вялікая футбольная сям’я.

**– Вы і самі раней прафесійна займаліся футболам. Як можаце ацаніць талент сына?**

– Я заўсёды прытрымліваўся і прытрымліваюся прынцыпу: зоркі з неба не падаюць, іх трэба даставаць. Але, мяркую, у любым выпадку не пашкодзіць прайсці іспанскую школу футбола менавіта ў такім узросце, калі ідзе фарміраванне футбаліста. Сын кажа, што ў іспанскім футболе настолькі вялікія хуткасці, што іх нават немагчыма параўнаць з беларускім узроўнем.

**– Ёсць шанцы, што праз некаторы час мы ўбачым Міраслава на полі падчас трансляцыі якога-небудзь матча чэмпіянату Іспаніі?**

– Я сыну кажу так: “Лёс даў табе цудоўны шанц праявіць сябе, а далей ніхто за цябе нічога не зробіць. Усё толькі ў тваіх руках”. Таму тут лепшы прадказальнік – час…

**Кастусь ЛІПСКІ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Геннадий ДУЛЕВИЧ: «Союз архитекторов – чисто декоративная организация, с которой никто не считается…»

*Член-корреспондент Международной академии архитектуры* ***Геннадий Дулевич*** *вышел из Белорусского союза архитекторов. «Народная Воля» поинтересовалась, почему известный архитектор решил выйти из организации, членом которой он был почти 40 лет.*

– Я вступил в Союз в 1980 году, – *объясняет Геннадий Антонович.* – Был председателем комиссии по быту и отдыху, зампредседателя по лицензированию, возглавлял Минскую городскую организацию Союза архитекторов. И сегодня с таким послужным списком я совершенно спокойно выхожу из этой организации. Причем без сожаления. Считаю, что там делать совершенно нечего.

Союз архитекторов сегодня не работает так, как должен. С ним никто не считается. Из 18 пунктов резолюции, принятой на прошлом съезде, выполнен только один – организация выставок.

В последнее время мои зарубежные коллеги, которые приезжают к нам, начинают откровенно смеяться над объектами, появившимися у нас в последнее время. Раньше такого никогда не было. Это было просто не принято среди коллег. Об архитектуре можно было говорить либо хорошо, либо никак. Это была такая негласная хартия…

**– А может, сегодняшние злые разговоры – это банальная зависть?**

– Исключено! Тем более что нелицеприятные оценки позволяют себе архитекторы, спроектировавшие отличнейшие объекты.

**– Геннадий Антонович, а вы не боитесь, что сейчас вам вслед понесется: мол, Дулевич сам ничего выдающегося не создал, для него нет авторитетов. У нас любят так говорить о людях, которые пытаются идти против большинства.**

– Не боюсь. Я к себе тоже отношусь довольно критически. В моих работах тоже есть какие-то недоработанные детали. Или я недосмотрел, или мои помощники. Я признаю ошибки.

Архитекторы – народ трусливый. Многие говорили, что будут выходить из Союза. Но конкретный шаг пока сделал только я.

**– Чем, по-вашему, должен заниматься Союз архитекторов?**

– Сегодня это чисто декоративный союз. Для сравнения: тот же Союз художников регулярно проводит какие-то выставки, семинары, поездки творческие. А в Союзе архитекторов – тишина!

Неплохо было бы, чтобы именно Союз занялся общественными обсуждениями. Чтобы были созданы какие-то общественно-консультативные советы – чтобы еще на стадии идеи профессионалы обсуждали объекты, чтобы не было архитектурных ужасов.

**– Интересно, а чем тогда руководствовались ваши коллеги, когда пару лет назад переизбрали главу Союза Александра Корбута на очередной срок?**

– На последних выборах Корбут победил с перевесом в один голос. Если бы я пришел на съезд и проголосовал, возможно, сейчас был бы другой руководитель Союза.

Корбут пригласил в Союз очень много молодежи. Но они не создали пока архитектурных шедевров. Я их называю операторами машинного доения, потому что они осваивают популярные профессиональные компьютерные программы и считают себя большими профессионалами. Мнят себя великими дизайнерами!

Да, их чему-то учат в вузах, но кто? Среди преподавателей – трифамилии четыре известные фамилии. К сожалению, нет архитектурной школы сегодня в Беларуси. Есть московская, прибалтийская, французская. А нашей нет. Когда-то студентам преподавали архитекторы-практики: Воинов, Заборский, Аладов. Им было что сказать и что показать. Они умирали с карандашом в руках. А сейчас среди преподавателей – сплошные теоретики. Темы кандидатских или докторских в архитектуре – даже обсуждать не хочется… Если сравнить курсовые и дипломные проекты наших и зарубежных студентов – это небо и земля! Вот поэтому у нас и появляются такие объекты, как, скажем, тот же отель «Кемпински». Там ведь только фасад есть! А внутри – пустота. Ни инженерных коммуникаций, ни перегородок! Такой же отель «Хайят» на Нововиленской стоит.

**– На Госпремию в области архитектуры претендуют несколько архитекторов – за создание мемориалов и скульптурных групп пограничной тематики за период с 2004-го по 2011 год…**

– Хорошие, уважаемые авторы – скульптор Геннадий Буралкин, архитекторы Валентин Занкович и Станислав Федченко. Но у меня вопрос: а что, в номинации “Архитектура” ничего более значимого не нашлось?

**– Как вы в целом оцениваете состояние белорусской архитектуры?**

– Есть куда развиваться, есть на кого равняться. Но дело в том, что не все хотят работать, творчески мыслить…

**– Геннадий Антонович, у вас в Тарасово был очень заметный коттедж, который вы возвели на овраге. Многие приезжали просто посмотреть на него, так необычно он был сделан. Слышала, продали дом…**

– Да. Потому что он перестал мне нравиться. Это нормально.

**– Не боитесь, что после выхода из Союза у вас пропадут заказы, станете меньше зарабатывать?**

– Я пока сам себе работу нахожу, в том числе и в странах ближнего зарубежья.

Не пропаду!

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

***P.S. Руководство Белорусского союза архитекторов воздержалось от комментариев по поводу выхода из организации Геннадия Дулевича.***

### Из личного дела

Геннадий Дулевич родился 9 апреля 1951 года.

Автор более 200 реализованных архитектурных проектов.

Главный архитектор зданий Центра неврологии и нейрохирургии в Минске, Детского кардиоцентра, жилых домов в Лебяжьем, здания прокуратуры Минска и многих других.



КОЛОНКА ЮРИСТА

На вопросы читателей «Народной Воли» отвечает юрист правозащитного центра «Правовая помощь населению» (Киев, Украина) Анатолий ПОПОВ.

## Решает банк

***Мы с женой ждем третьего ребенка и хотим построить новую квартиру (в наследство мне осталось жилье, но большой семье в нем тесно). Я являюсь поручителем у человека, который не платит за кредит. В этой связи ко мне приходят судебные исполнители и описывают имущество. Можем ли мы в таких условиях взять льготный кредит на покупку жилья (скоро наша семья будем многодетной)?***

**Андрей ИВАНОВ, Минск.**

Договор поручительства с Вами заключен для обеспечения обязательства по кредитному договору. Согласно п.1 ст.343 ГК Республики Беларусь при неисполнении или ненадлежащем исполнении обеспеченного поручительством обязательства поручитель и должник отвечают перед кредитором солидарно. Банк имеет право предъявить иск и к должнику, и к поручителю. В дальнейшем, если поручитель полностью погашает сумму задолженности перед банком, он имеет право предъявить иск к должнику в том объеме, в котором он удовлетворил требования кредитора. Поручитель также вправе требовать от должника уплаты процентов на сумму, выплаченную кредитору, и возмещения иных убытков, понесенных в связи с ответственностью за должника (п.1 ст.345 ГК).

Что касается оформления кредитного договора на покупку или строительство жилья, необходимо обратиться в банк. Выдать или не выдать Вам кредит решает банк.

## Все зависит от прописки…

***У мамы скоро состоится суд по взысканию алиментов с бывшего мужа. Ей известно, что он задолжал как предприниматель почти 640 млн неденоминированных рублей. Из известного нам имущества у него есть 3-этажный коттедж площадью 150 кв.метров. Можно ли в данном процессе ходатайствовать об аресте и продаже этого коттеджа в счет погашения долга, так как этот коттедж превышает норму жилой площади?***

**Екатерина РОМАНОВИЧ, Гомель.**

В Приложении №1 к Гражданско-процессуальному кодексу Республики Беларусь указан перечень имущества, на которое не может быть обращено взыскание по исполнительным документам. К такому имуществу законодатель относит и жилой дом с хозяйственными постройками или отдельные его части либо квартиру, если должник и его семья постоянно в нем (в ней) проживают. Но если выяснится, что жилой дом не является местом постоянного места жительства должника с членами его семьи или дом расположен на территории садоводческого товарищества, а у должника имеется, к примеру, квартира, где он постоянно проживает, то на такой дом можно наложить взыскание.

## Просите арендное жилье включить в социальное

***Мою мать лишили родительских прав. На тот момент я обучалась в Минске и находилась под опекой учебного заведения (колледжа). На данный момент я совершеннолетняя и не имею собственного жилья. Прописана в деревне в доме, который был признан непригодным для проживания.***

***Какие права на строительство либо получения жилья я имею и в какой области РБ? Обращалась в Логойский райисполком, на что получала ответ, что у них нет мест в общежитии и нет социального жилья, которое должны были мне предоставить еще в мои 18 лет. Недавно мне предложили арендное жилье. Соглашаться ли мне на него? Какие привилегии я потеряю? И каков будет итог в случае моего отказа от этого жилья?***

**Анастасия БУЙКО, Логойский район.**

Правом на получение жилого помещения социального пользования имеют дети-сироты и дети, оставшиеся без попечения родителей, если они состоят на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий (ст.111 ЖК Республики Беларусь). Из Вашего письма не понятно, стали ли Вы на учет для получения социального жилья. Если да, то Вам обязаны предоставить помещение социального пользования, а не арендное жилье.

Отсутствие в городе жилых помещений социального пользования не является основанием для того, чтобы предлагать Вам заключить договор коммерческого найма. Вы можете на это согласиться, но тогда Вас снимут с учета нуждающихся в улучшении жилищных условий, а следовательно, право на предоставление жилого помещения социального пользования Вы утратите.

Если Вам предлагают арендное жилье, которое имеется в наличии на территории Вашего района, советую написать заявление в райисполком с просьбой вынесения решения о включении данного жилого помещения в состав помещений социального пользования с последующим предоставлением Вам данного жилого помещения. Такое право предоставлено местным исполнительным и распорядительным органам на основании п.1 ст.110 ЖК Республики Беларусь.

НЕСТАНДАРТ

# Беларуская мова кітаянкі

*Іньлін ІЖАН вучыцца ў магістратуры Полацкага ўніверсітэта. Сваімі ўражаннямі пра Беларусь яна падзялілася з «Народнай Воляй».*

– Я вучуся на гісторыка-філалагічным факультэце, – *расказвае ўраджэнка Кітая.* – Літаратура, з якой прыходзіцца працаваць, нярэдка напісана па-беларуску. Першапачатковa знаёмства з вашай мовай было звязана з вучобай, але пазней я зацікавілася і палюбіла яе.

**– Як даўно вы ў Беларусі?**

– Я прыехала восенню мінулага года па студэнцкай праграме абмену. У сябе на радзіме вывучала рускую мову і літаратуру. Атрымала дыплом і вырашыла працягнуць адукацыю. У Беларусь прыехала з гарадской акругі Наньтун. Гэта амаль тысяча кіламетраў ад Пекіна.

Полацк і Наваполацк – спакойныя і ўтульныя гарады. Пакуль мне найбольш запомнілася беларуская зіма.

**– Вы жывяце ў інтэрнаце?**

– Так. У мяне добрыя ўмовы. У кітайскіх студэнцкіх інтэрнатах цесна: у некаторых пакоях пражываюць па 4 чалавекі. Наогул, я заўважыла, што пакоі ў інтэрнаце ПДУ не перапоўнены.

**– Са студэнтамі маеце зносіны?**

– Так, мы часта слухаем музыку разам. У мяне ёсць сяброўка, якая першы раз прыгатавала для мяне дранікі. Гэта вельмі смачная страва.

Некаторыя просяць дапамагчы з вывучэннем кітайскай мовы. Беларускія студэнты вельмі актыўныя, але ў той жа час сур’ёзныя і рэдка смяюцца.

**– Як вам цэны ў беларускіх крамах?**

– Не скажу, што яны занадта адрозніваюцца ад кітайскіх. Кошты прадуктаў падобныя. У вас вялікі асартымент, але некаторых відаў капусты ці грыбоў мне не хапае.

Калі хочацца паабедаць па-беларуску – іду ў сталовую. У інтэрнаце ў асноўным гатую кітайскую ежу.

**– Вы атрымліваеце стыпендыю?**

– 250 рублёў. Таксама дапамагаюць бацькі. Яны працуюць на заводзе.

**– Якое ўражанне склалася пра Беларусь за паўгода?**

– Самае галоўнае ў любой краіне – гэта людзі. Беларусы – вельмі прыязныя. Я адчуваю сябе тут добра. Калі звярталася да мінакоў, каб спытаць дарогу, то мне ветліва падказвалі.

Многім маім суайчыннікам таксама падабаецца ваша краіна. Заўважыла, што беларусы яшчэ чытаюць кнігі ў транспарце, на вуліцы… У нас такога ўжо няма: выкарыстоўваюцца толькі тэлефоны, планшэты для прагляду відэа ці гульняў.

Здзівілі і некаторыя іншыя моманты...

**– Якія менавіта?**

– Беларускія дзяўчаты кожны дзень карыстаюцца касметыкай. У кітаянак няма звычкі рабіць гэта так часта.

Ежа ў вас падаецца кожнаму, ужо раскладзеная па талерках. Мы таксама абедаем або вячэраем разам, але на стале адзін вялікі посуд на ўсіх і кожны бярэ сабе на талерку колькі хоча. Дарэчы, кухня нашай краіны ў Беларусі нядрэнная: мы з сябрамі аднойчы заходзілі ў кітайскі рэстаран у Віцебску – мне вельмі спадабалася.

Адзінае, што мне не зразумела да гэтага часу: чаму беларусы не гавораць на роднай мове?! Цяжка сустрэць мінака, які адкажа па-беларуску. Чаму так адбываецца?

**– Па розных прычынах: адны саромеюцца, іншыя не хочуць ці не ведаюць мовы.**

– Дзіўна…

**– А як у вас з беларускай цяпер?**

– Пакуль я чытаю толькі літаратуру па спецыяльнасці, але ў будучыні абавязкова пазнаёмлюся з беларускай класікай. Таксама наведваю сустрэчы праекта «Жывая мова», дзе вывучаюць мову і размаўляюць па-беларуску. Я пакуль не ўсё разумею, але абавязкова вывучу вашу мову.

**– Вахцёр інтэрната распавяла, што калі раніцай вы сыходзіце на заняткі, то заўсёды звяртаецеся да яе па-беларуску і кажаце: «Да пабачэння».**

– *(Смяецца.)* Гэта так.

**– Застаецца ў Беларусі пасля вучобы не думалі?**

– Пакуль не магу нічога сказаць. Наперадзе яшчэ паўтара года вучобы. І так далёка я не загадваю. У Кітаі мала ведаюць пра Беларусь. У нашых універсітэтах ёсць факультэты рускай мовы, а беларускай няма. Таму магчымасць вывучаць яе тут для мяне вельмі важная. Хоць, як мы ўжо казалі, яе рэдка можна пачуць. Але я стараюся гутарыць па-беларуску з выкладчыкамі і сябрамі.

Кажуць, што заробак выкладчыка ў Беларусі невысокі. Я не скажу дакладную суму ў Кітаі цяпер, але прафесія настаўніка мае высокі статус у нашым грамадстве. Яна карыстаецца павагай.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

СОРАМ!

# У лагойскіх чыноўнікаў не знайшлося грошай на ўшанаванне памяці Ніла Гілевіча

*У чэрвені 2016 года беларус Сяргей БАХУН звярнуўся ў Лагойскі раённы Савет дэпутатаў з прапановай ушанаваць памяць пра народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, які нарадзіўся ў тутэйшай вёсцы Слабада.*

– Я рэкамендаваў чыноўнікам назваць адну з вуліц і мясцовых бібліятэк у гонар славутага земляка, – *распавядае Сяржук “Народнай Волі”.* – Мне неўзабаве далі пісьмовы адказ: маўляў, ваша прапанова была разгледжана на сесіі райсавета дэпутатаў і прынята рашэнне вынесці дадзенае пытанне на грамадскае абмеркаванне. Я падзякаваў і папрасіў папярэдзіць, калі будзе адбывацца грамадскае абмеркаванне. Мне пісьмова паабяцалі: загадзя паведамім. І пасля гэтага – цішыня.

Прайшло больш за паўгода і, не атрымаўшы абяцанай інфармацыі аб месцы, даце і часе абмеркаванняў, я зноў звярнуўся ў Лагойскі раённы Савет дэпутатаў. На гэты раз атрымаў адказ, што мая прапанова не можа быць задаволена, бо *“на цяперашні час мерапрыемствы па фарміраванні жылой сядзібнай і шматкватэрнай забудовы ў раёне завершаны, найменні вулічнай і дарожнай сеткі прыведзены ў норму”*, а пераймяноўваць ужо існуючую вуліцу немагчыма з-за адсутнасці фінансавых сродкаў. Таксама мне паведамілі пра тое, што пытаннямі надання ўласных імён дзяржаўным установам займаецца Савет міністраў, а Лагойскі раённы Савет дэпутатаў не надзелены такімі паўнамоцтвамі, таму надаць назву адной з бібліятэк таксама немагчыма.

Я тады звярнуўся ў Мінскі абласны Савет дэпутатаў. Па-першае, мне не зразумела: чаму мяне не папярэдзілі пра дзень, калі адбываліся грамадскія абмеркаванні па гэтым пытанні? Калі слуханні адмянілі, чаму мне пра гэта не паведамілі? Па-другое, запытаўся, чаму нельга знайсці сродкі на ўшаванне памяці народнага паэта Беларусі. Тым больш гэта не такія і вялікія грошы. А калі ўжо сапраўды так цяжка з фінансамі, то ў гонар народнага паэта мы маглі б сабраць сродкі на перайменаванне вуліцы народнай талакой.

Мне крыўдна, што ў лагойскіх улад няма сродкаў на такую годную справу.

Ці спадзяюся я на станоўчае вырашэнне пытання? Надзея жыве доўга... Невялікае спадзяванне ёсць, але пры гэтым я разумею, што хутчэй за ўсё мне адмовяць. У любым выпадку грамадства павінна ведаць, як у Лагойску ставяцца да свайго Вялікага земляка.

### ДАРЭЧЫ

За ўсю гісторыю ў Беларусі было толькі восем народных паэтаў: Янка Купала, Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Пімен Панчанка, Ніл Гілевіч і Рыгор Барадулін.

Ніводнага з іх няма ў жывых.

**Марына КОКТЫШ.**

АКЦЫЯ

# Грошы на беларускі «Ціхі Дон»

*Вядомы беларускі гісторык Ігар Мельнікаў распачаў кампанію па зборы сродкаў на выданне ўспамінаў беларуса Паўла Нічыпарука – салдата Арміі Андэрса, удзельніка баёў з нацыстамі ў Італіі падчас Другой сусветнай вайны.*

АДЫСЕЯ ПАЛЕШУКА

*– Безумоўна, кожны з нас чытаў раман-эпапею Міхаіла Аляксандравіча Шолахава “Ціхі Дон”,* – кажа Ігар Мельнікаў. – *Трагедыя Рыгора Мелехава не пакінула абыякавым ніводнага чалавека. Аднак такіх твораў можна было б напісаць тысячы, калі б кожны, хто перажыў выпрабаванні XX стагоддзя, пазней апісаў іх у якасці мемуараў. Беларус Павал Каленікавіч Нічыпарук такія ўспаміны пакінуў, і яго жыццё – лепшая ілюстрацыя таго, праз якія цяжкія выпрабаванні давялося прайсці жыхарам Беларусі падчас Другой сусветнай вайны.*

Напрыканцы савецкай эпохі мемуары Нічыпарука былі ў кроку ад таго, каб пабачыць свет. У часы перабудовы, у 1989 годзе, рукапіс трапіў да Васіля Быкава. Прачытаўшы іх, Васіль Уладзіміравіч напісаў аўтару: *“Я прачытаў Вашыя мемуары. Несумненна, яны заслугоўваюць увагі. Трэба іх выдаць. Дзеля гэтага Вам трэба звярнуцца ў выдавецтва ў Мінску ці ў Маскве (напрыклад, у выдавецтва “Беларусь”), якое выдае падобнага кшталту літаратуру, і прадставіць туды два экзэмпляры рукапісу. Справа гэтая працяглая, таму трэба пачынаць, не губляючы часу. Жадаю Вам поспехаў!”* Аднак тады мемуары так і не былі апублікаваны: развальваўся Савецкі Саюз, адраджалася незалежная Беларусь. Доўгія дзесяцігоддзі ўспаміны салдата ляжалі і чакалі свайго даследчыка. А потым трапілі ў рукі гісторыка Ігара Мельнікава. Напрыканцы мінулага года на выставе ў Брэсце “Беларусы ў Войску Польскім” да Ігара Мельнікава звярнуліся мясцовыя журналісты: маўляў, родныя перадалі ўспаміны салдата Арміі Андэрса беларуса Нічыпарука, а мы не ведаем, што з імі рабіць.

*– З першых старонак было зразумела, што гэта найцікавейшы матэрыял,* – кажа Ігар Мельнікаў. – *І я набыў мемуары.*

*Павал Каленікавіч Нічыпарук нарадзіўся ў жніўні 1902 г. на хутары Жардзечна ў Брэсцкай вобласці. У лютым 1941 г. яго арыштавалі і накіравалі ў лагер ГУЛАГа ў Свярдлоўскай вобласці. У 1942 г. беларус аказаўся ў Арміі Андэрса і ў яе складзе ўдзельнічаў у баях з нацыстамі ў Італіі. У 1948 г. Нічыпарук паехаў у ЗША, дзе і пражыў да самай смерці. У нататках, надрукаваных на машынцы на маленькіх, “амерыканскіх”, аркушах паперы, ёсць усё: цяжкая сялянская праца, нечалавечыя ўмовы савецкіх турмаў і ГУЛАГа, фронт і баі з нацыстамі, расстанне з сям’ёй і жыццё ў эміграцыі. А яшчэ – вялікая настальгія па роднай Беларусі… Пра гераізм беларускіх жаўнераў Другога польскага корпусу, на доўгі час забыліся, на Радзіме пра іх амаль не ўспаміналі. І толькі зараз, калі тых ветэранаў Другой сусветнай ужо няма з намі, праўда пра іх жыццё і выпрабаванні, праз якія яны прайшлі, становіцца здабыткам беларускай грамадскасці.*

Збор сродкаў на выданне ўнікальных успамінаў Паўла Нічыпарука “Адысея палешука” адбываецца на краўдфандынгавай пляцоўцы “Вулей”. Кожны, хто жадае падтрымаць праект і атрымаць гэтую цікавую кнігу, можа зайсці па спасылцы http://ulej.by/project?id=117723 на старонку праекта і падтрымаць яго. *“Усе спонсары, нягледзячы на суму ўдзелу ў падтрымцы выдання кнігі “Адысея палешука”, будуць узгаданы на старонках новага выдання,* – кажа Ігар Мельнікаў. – *Спадзяюся, што разам у нас атрымаецца рэалізаваць гэтую цікавую і вельмі карысную для беларускага грамадства справу”.*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

АНШЛАГ

# Маэстро Юстус Франц, любимец Европы

Годовая концертная афиша Белгосфилармонии не блещет известными фамилиями ярких исполнителей-гастролеров. К счастью, в апреле у лучшего оркестра страны – Государственного академического симфонического оркестра Республики Беларусь – 90-летний юбилей. Дата обязывает. И оркестр, судя по ближайшим программам и именам знаменитых европейских солистов на афишах, готов к ней, как никогда. По-хорошему, к такому яркому событию стоило бы вообще построить в столице новый концертный зал. Ну, право, не все же в стране у нас болеют хоккеем. По-моему, минчане давно заслужили свой Дом музыки с хорошей акустикой – и чтобы тоже настоящий дворец. Потому что здание Белгосфилармонии, которое задумывалось когда-то как Дом культуры камвольного комбината, даже после нескольких ремонтов несет на себе родовой отпечаток вторичности. Нет в его архитектуре изящества, нет размаха… Да еще этот бледно-зеленый (салатовый, как говорят в народе) цвет стен в фойе… Такая тщательно замаскированная провинция.

Но дух дышит, где хочет, даже в салатовых стенах. В последнее десятилетие в исполнительском искусстве Беларуси настоящий ренессанс. Выросло новое блестящее поколение музыкантов. Буквально на глазах омолодилась также и публика, она жадно внимает, восхищается, пусть даже и аплодирует невпопад. Главное, что по-настоящему любит классическую музыку. Концерты симфонического оркестра под управлением народного артиста Александра Анисимова проходят с аншлагом. Хотя коллектив и его художественный руководитель держат очень высокую профессиональную планку и массовости дешевыми способами не добиваются. Сезон насыщен сложными программами, с коллективом регулярно выступают известные солисты. Но человек, который приедет к нам через день, – настоящая мегазвезда.

30 марта на Большой сцене филармонии государственный симфонический оркестр будет выступать под управлением маэстро Юстуса Франца, одного из самых популярных и востребованных немецких дирижеров во всем мире. Это настоящее культурное событие года. Ю.Франц – создатель всемирно известного Шлезвиг-Гольштейнского музыкального фестиваля, основатель «Оркестра наций». Его исполнительство отличается отменным вкусом и величайшим профессионализмом. Конечно, появлением в Минске такой персоны мы обязаны маэстро Анисимову, его личным связям с Юстусом Францем.

– Маэстро Франц – давний любимец Европы, а сейчас и Азии. Ему рукоплещут, его обожают. Он вообще воплощение позитива: улыбчивый, контактный, – рассказал Александр Михайлович. – Но загадка, откуда у него берутся силы, кроме музыки, заниматься политикой, наукой, медициной, спортом? Я иногда думаю: откуда он, из какой эпохи – Возрождения, античности? А может, напротив, из будущего XXXI века?

Вопрос повис в воздухе. И ответ, наверное, будет после концерта – причем у каждого свой. Главное – не разминуться с Юстусом в вечности.

**Виктория ДРОЗД.**

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ

## Ой, ляцелі гусі з броду

Словы і музыка народныя

Ой, ляцелі гусі з броду,
Скалацілі ў рэчцы воду.

Пакуль вада чыста стала,
Я з Раманам пастаяла. } 2 разы

– Раман, Раман, Раманіку,
Пусці мяне дадаміку.

Я не родну маці маю,
Будзе біці, добра знаю. } 2 разы

Будзе біці, шчэ й караці,
Яшчэ й шэльмай называці.

– Дзе ты, шэльма, валачылась,
Што й вячора ўжо зварылась. } 2 разы

– Табе, маці, прызнаюся,
Што з Раманам кахаюся.

Ён высокі, а я нізка –
Будзе пара вельмі блізка. } 2 разы

Ён чарнявы, я бялява –
Будзе пара кучарава.

Ён багаты, а я бедна –
Будзе пара адпаведна. } 2 разы

Ой, ляцелі гусі з броду,
Скалацілі ў рэчцы воду.

# Усадьба



*По многочисленным просьбам читателей вводим в газете раздел* ***«Усадьба».***
*О чем будем рассказывать?*
*О секретах, которые помогут владельцам приусадебных и дачных участков получать высокие урожаи плодовых и ягодных культур, овощей, пряно-ароматических и многих других растений.*
*Вы узнаете о целебных свойствах тех или иных плодов, о рецептах приготовления различных блюд из выращенного вами урожая.*
*Читайте «Усадьбу»! Пусть наши советы принесут вам пользу, а работа на земле доставит удовольствие. Раздел будет вести агроном* ***Федор Веравойша.*** *В разгар весенне-полевых работ тематическую подборку под таким названием решено давать в каждом номере по вторникам.*

АЗБУКА САДОВОДА

## Не забывайте подкормить, полить и… ягоды собрать

***Расскажите, пожалуйста, какой уход нужен землянике с весны до осени.***

**Лариса Новикова.**
*Витебск.*

Весной первого года, в апреле, грядки земляники очищают от старых, сухих и заплесневелых листьев, одновременно рыхлят междурядья. С весны до осени проводят еще 6–8 рыхлений: весной – на глубину 5–8 см, осенью – на 10–12 см, непосредственно около растений – на 2–3 сантиметра. После этого растения подкармливают: на 10 л воды 0,5 л кашицеобразного коровяка. Поливают из расчета ½ л на одно растение. Перед цветением на 1 кв. метр вносят 3 столовые ложки древесной золы. Во время цветения земляники для защиты от возможных заморозков растения укрывают бумагой, пленкой и т.п. Повысить температуру воздуха на участке на 1–2 градуса можно путем дымления. Делают это ближе к рассвету в течение 2 часов после восхода солнца и до наступления плюсовой температуры. Уменьшают опасность заморозков также дождевание и поливы.

Весной второго года сухие и погибшие листья убирают, в конце апреля дают корневую подкормку: на 10 л воды 1 столовая ложка сульфата аммония и 1 стакан жидкого коровяка. Подкармливают из расчета 1 л раствора на одно растение. Перед цветением подкармливают (на 10 л воды 3 столовые ложки древесной золы и 2 столовые ложки двойного суперфосфата) и поливают из расчета 1 л на один куст.

Весной третьего года до цветения дают корневую подкормку: на 10 л воды 1 л жидкого куриного помета и 1 столовая ложка нитрофоски. Поливают из расчета 6–8 л на 1 кв. метр.

Во время завязывания первых ягод почву под кустами мульчируют. Для этого используют чистую солому, древесную стружку, сухой мох или ленты пленки. Второе мульчирование проводят осенью на высоту 5–6 см торфом или древесными опилками.

## Основные работы в апреле

* Обработайте сад против вредителей и болезней.
* Сделайте прививки, если в этом есть необходимость.
* Если с осени не перекопана почва в приствольных кругах яблонь, то сделайте это сейчас.
* Обрежьте сухие верхушки малины, подкормите кусты жидким навозом.
* Подкормите азотным удобрением щавель, землянику, многолетние луки, петрушку, многолетние цветы.
* Если у рассады перца, баклажанов, томатов появились листочки, надо сделать подкормку.
* Сделайте пикировку рассады томатов и баклажанов.
* Если с осени не были подготовлены овощные грядки, сделайте их сейчас.
* Сделайте пересадки и новые посадки прикопанных с осени саженцев кустов и деревьев.
* Посейте ранние однолетние цветы (васильки, эшшольцию, ноготки, незабудки и др.)
* Подкормите ирисы, флоксы, хризантемы.
* Высадите на рассаду ранний картофель.
* Если на участке есть кроты, по периметру грядок и вокруг теплиц высадите черные бобы. Установите кротоловки.

ДЕЛИМСЯ ОПЫТОМ

## Ранние огурцы



Для получения раннего урожая огурцов нужно вырастить 25–30-дневную рассаду в торфоперегнойных горшочках.

Первая забота – подготовка семян. Для посева беру семена 4–5-летней давности: у выросших из таких семян огурцов больше завязей. Их следует отсортировать. Для этого погружаю их в раствор поваренной соли (одна чайная ложка соли на стакан воды). При помешивании раствора крупные семена осядут на дно, а мелкие и пустые всплывут. Их выбрасываю. Оставшиеся семена дважды промываю и слегка просушиваю.

Для обезвреживания семян применяю тепловой способ. Отобранные для посева семена засыпаю в сосуд с водой и прогреваю их на слабом огне до температуры 50 градусов в течение часа.

Чтобы ускорить прорастание семян, оставляю их в этой же воде для набухания при комнатной температуре на сутки. Затем слегка просушиваю, кладу в холодильник для закалки и держу их там трое суток при температуре от -2 до +2 градусов. Затем держу в комнате при температуре 7–10 градусов. Так чередую до дня высева.

Семена, прошедшие предпосевную обработку, имеют хорошую энергию прорастания, быстрее и лучше развиваются, не подвергаются вирусным заболеваниям, легче переносят понижение температуры.

Проращиваю семена во влажной шерстяной тряпочке при комнатной температуре. На 2–3-й день появляются всходы. Примерно 3–5 мая высаживаю их по одному в торфоперегнойный горшочек, наполненный питательной землей, заглубляя во влажную лунку на 2 сантиметра. Как только росток выглянет из земли, чтобы он не вытянулся, переношу горшочки в прохладное место на 10 дней и держу при температуре 13–15 градусов. При этом рост замедляется, но стебли становятся коренастыми, крепкими. После 10-дневного карантина для нормального развития огуречной рассады нужны тепло и влага. Поливаю раз в 2–3 дня, температура воздуха 22–32 градуса.

Примерно 3–5 июня с появлением 6–7 листочков, когда минует опасность заморозков, взрослую рассаду из торфоперегнойных горшочков сажаю в открытый грунт на расстоянии 20–25 см друг от друга. Загущать посевы нельзя, так как боковые плети будут плохо расти, а на них концентрируется основной урожай.

**Леонид ВЕРБИЦКИЙ,**
**опытный дачник.**
*Минск.*

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Закаливаем рассаду



Чем раньше начнете закаливать рассаду (то есть после появления всходов), тем лучше. Обычно начинают закаливать растения, когда на улице не менее 10–15 градусов тепла.

Рассаду выносят из комнаты в хорошо защищенное от ветра место и первое время держат в тени, чтобы не было солнечных ожогов.

Первый раз выносят на улицу (балкон) около полудня, когда воздух хорошо прогреется, и держат, пока не начнет холодать. Дальше рассаду выносят пораньше и позднее заносят домой. Затем можно выносить с 9 утра и до 4 дня.

За 3–4 дня до посадки в почву рассаду оставляют под открытым небом на улице на ночь и больше не вносят домой, сокращают и полив. Если ночь ожидается холодная, рассаду прикрывают бумажными колпаками, не внося в дом, так как через несколько дней она все равно будет пересажена под открытое небо.

Рассада (огурцов, кабачков, тыквы) принадлежит к растениям короткого светового дня, поэтому лучше сократить его. Для этого после 10–12 часов нахождения рассады на свету ее убирают в темное место, где одновременно снижается температура воздуха, то есть днем 20–22°С, а ночью 16–17°С тепла.

СЕМЕЙНАЯ ФЕРМА

## Зимой молока больше, летом меньше



***Правда ли, что корова после отела зимой дает больше молока, чем та, которая отелилась летом? Если да, то чем это можно объяснить?***

**Валентина ПИСКУНОВА.**
*Дятловский район.*

Заметное влияние на продуктивность коровы оказывает сезон отела. Коровы, отелившиеся зимой (декабрь–февраль), дают в среднем на 7–10% больше молока, чем отелившиеся поздней весной и летом.

Объясняется это тем, что у коров зимних отелов лактационная (изменение величины удоя от 1-го месяца после отела до 10-го включительно) имеет две вершины подъема – на 2–3-м месяце и на 4–5-м при выгоне на пастбище, ибо зеленая трава является наиболее молокогонным кормом.

Нужно также отметить, что телята осенне-зимних отелов рождаются обычно более крепкими и реже болеют, чем родившиеся в весеннее время. Из всех факторов окружающей среды наибольшее влияние на продуктивность коровы оказывают уровень и полноценность кормления. От коровы нельзя получить много молока, если кормление ее организовано неправильно.

Исходя из сказанного, а также учитывая, что от коровы ежегодно нужно получать теленка, необходимо стремиться к тому, чтобы корова доилась 300–310 дней в году и запускалась за 50–60 дней до отела.





МАЗАІКА

## Першы блін Ігара Крывушэнкі

*Зборная Беларусі правяла першы афіцыйны матч пад кіраўніцтвам новага галоўнага трэнера.*

У гасцях беларуская каманда з лікам 0:4 прайграла шведам у матчы адборачнага турніру чэмпіянату свету па футболе.

Акрамя таго, у “беларускай” групе адбыліся яшчэ два матчы: Балгарыя–Галандыя – 2:0, Люксембург–Францыя – 1:3.

Становішча каманд у групе: Францыя – 13 ачкоў (5 гульняў), Швецыя – 10 (5), Галандыя – 7 (5), Балгарыя – 9 (5), Беларусь – 2 (5), Люксембург – 1 (4).

Наступная гульня адборачнага турніру адбудзецца 9 чэрвеня. У гэты дзень беларусы сустрэнуцца на сваім полі з камандай Балгарыі.

## Колькі зарабіла Домрачава?

*Напрыканцы сезона журналісты падлічылі, якія прызавыя атрымліваюць біятланісты.*

У гэтым сезоне больш за ўсіх зарабілі ўладальнікі Вялікага крыштальнага глобуса – француз Мартэн Фуркад (348.750 еўра) і немка Лаура Дальмаер (298.000).

А вось трохразовая алімпійская чэмпіёнка Дар’я Домрачава, якая ў гэтым годзе вярнулася ў спорт пасля нараджэння дачкі, зарабіла прызавых больш, чым усе астатнія беларускія біятланісты разам. На рахунку Домрачавай 27 тысяч еўра, заробак усіх астатніх склаў за сезон 23 тысячы еўра.

ЗАПРАШЭННЕ

## Памяці Алеся Рашчынскага

Калі я думаю і разважаю аб тым, хто такі сапраўдны патрыёт і як ён выглядае, сярод іншых перад вачыма ўстае аблічча майго настаўніка – беларускага кампазітара Алеся Рашчынскага. Вядома, не многія ведаюць яго імя, і гэта шкада, таму што Алесь Уладзіміравіч увасабляе ў сабе вобраз беларуса ў найлепшым яго праяўленні. Не сумняваюся, праз некаторы час імёны тых, хто аддаў сваё жыццё служэнню роднай краіне, будзе ведаць кожны беларус, але, каб гэта здарылася хутчэй, трэба паказваць і расказваць пра іх лёс і творчы шлях.

З нагоды дня народзінаў Алеся Рашчынскага 8 красавіка 2017 года сталічная філармонія збярэ ў вялікай зале сяброў і прыхільнікаў таленту кампазітара. Гэты канцэрт – даніна памяці выдатнаму творцу, які нёс у грамадства беларускую мову, беларускую песню, беларускую культуру. Алесь Уладзіміравіч выгадаваў больш за 40 спецыялістаў-дырыжораў, прафесіянальных харавых выканаўцаў, напісаў больш за 200 апрацовак беларускіх народных песень, выпусціў 8 фальклорных зборнікаў і склаў дзве навучальныя праграмы, па якіх зараз вучацца музычныя каледжы па ўсёй краіне. Дзякуючы Алесю Рашчынскаму ў Мінскім дзяржаўным музычным каледжы імя М.Глінкі існуе аддзяленне “Народна-харавыя спевы”, адчыненае ім і яго аднадумцамі ў 1973 годзе. Больш за 30 лет ён плённа працаваў дзеля роскввіту свайго дзецішча, а з-пад крыла Алеся Уладзіміравіча ўчарашнія першакурснікі выходзілі ў свет сапраўднымі спецыялістамі.

Калісьці Алесь Уладзіміравіч зрабіў знакавую для нашага аддзялення аранжыроўку на музыку М.Сацуры, словы Н.Гілевіча – “Шлях да Беларусі”, рэфрэнам у якой паўтараюцца словы “ І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!”. І вось мы, выпускнікі Алеся Рашчынскага, прыйшлі. Прыйшлі да вас, да нашых суграмадзян і суайчыннікаў, каб пераварнуць вашы ўяўленні аб беларускай музыцы, каб напоўніць вашы душы любоўю і цеплынёй, каб аб’яднаць вас мілагучнай беларускай мовай і выказаць словы падзякі за тое, што не забываецеся на сваё роднае. Прыйшлі, каб пакланіцца свайму настаўніку і ўшанаваць яго светлую памяць. Толькі так, праз мастацтва і творчасць, Алесь Уладзіміравіч яднаў нас, а мы будзем імкнуцца аб’яднаць вас.




Цікава і вельмі прыемна, што, складаючы праграму канцэрта, я знайшла падтрымку ў калег-музыкантаў. Аркестр народных інструментаў і сімфанічны аркестр МДМК імя М.І.Глінкі, вакальна-харэаграфічны калектыў “Жалейка”, салісты Дзяржаўнага музычнага тэатра, народны ансамбль “Каханачка” і, канешне, народны хор імя А.Рашчынскага – усе мы будзем спяваць і іграць для вас, бо няма ўжо сіл хаваць ад грамадства цудоўную музыку, напісаную Алесем Рашчынскім, Ігарам Лучанком, Алегам Моўчанам, Яўгенам Глебавым.

**8 красавіка а 7-й гадзіне** запрашаем і чакаем усіх неабыякавых беларусаў у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

**Юлія ЮХНО-ТАРАСЕВІЧ.**

**Рэкламны аддзел:**
**narodnayav@gmail.com**
**тэл.: +375 29 8 444 725,**
**+375 29 111 30 77,**
**+375 17 328-66-09**

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

**Падпісныя індэксы:**

**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 27.03.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 620 экз. Заказ № 865.

ТРАГЕДЫЯ

## У аўтамабільнай катастрофе загінула жонка Алеся Бадака

У нядзелю ў аўтамабільнай катастрофе загінула жонка Алеся Бадака – вядомага беларускага пісьменніка, аўтара многіх паэтычных і празаічных зборнікаў, кніг для дзяцей і юнацтва. Працаваў у часопісе “Бярозка”, узначальваў рэдакцыі літаратурна-мастацкіх часопісаў “Нёман” і “Полымя”, быў першым намеснікам дырэктара рэдакцыйна-выдавецкай установы “Літаратура і мастацтва” (пазней – “Выдавецкі дом “Звязда”). З 2015 года – дырэктар выдавецтва “Мастацкая літаратура”.

Шкада, калі людзі пакідаюць гэты свет. Яшчэ больш шкада, калі яны развітваюцца з намі ў даволі маладым узросце.

Мы, народавольцы, смуткуем разам з Алесем Мікалаевічам Бадаком і выказваем яму шчырае спачуванне з нагоды смерці яго жонкі Жанны Арсеньеўны.